*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*



# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 18 лістапада 1988 г. № 46 (3456) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.



Выступае народная харавая капэла настаўнікаў г. Полацка. Фота Ул. КРУКА.

## СУЗОР'Е САМАБЫТНЫХ ТАЛЕНТАЎ

**14 ЛІСТАПАДА У МІНСКУ ПАЧАЛІСЯ ДНІ ПАКАЗУ ДАСЯГНЕННЯЎ НАРОДНАЙ ТВОРЧАСЦІ ВІЦЕБСКАЙ ВОБЛАСЦІ, ПРЫСВЕЧАНЫЯ 70-ГОДДЗЮ БССР І КАМПАРТЫІ БЕЛАРУСІ.**

З гэтай нагоды ў Доме літаратара адбылася прэс-канферэнцыя, на якой аб мерапрыемствах Дзён культуры расказала начальнік упраўлення культуры Віцебскага аблвыканкома Г. Клёсава. Аб сваім удзеле ва ўрачыстасцях і планах на будучае расказалі самадзейны кампазітар М. Пятрэнка, мастацкі кіраўнік народнай харавой капэлы Полацкага ГДК Л. Жукава, кіраўнік народнай студыі Глыбоцкага РДК А. Дубіна, сакратар Віцебскага абласнога аддзялення СП БССР А. Салтук.

У першы дзень мінчане сустрэліся з народнай харавой капэлай настаўнікаў з Полацка, адметнай падзеяй стала выстаўка дываноў «Фарбы Паазер'я», прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння выдатнага мастака Беларусі Язэпа Драздовіча.

У Днях культуры прымаюць удзел ансамбль песні і танца «Маладосць» Палаца культуры бытавога абслугоўвання насельніцтва Віцебска, народны ансамбль танца «Колас» Віцебскага РДК, народны ансамбль песні і танца «Яблынька» Гарадоцкага РДК, хор ветэранаў вайны і працы Оршы, фальклорныя калектывы з Аршанскага, Докшыцкага і Чашніцкага раёнаў і інш. Творчую справаздачу віцябчане будуць трымаць 19 лістапада ў Палацы культуры трактарабудаўнікоў.

НАШ КАР.

## ТВАЯ ПАЗІЦЫЯ, КАМУНІСТ...

### Нататкі са справаздачна-выбарчага сходу партарганізацыі СП БССР, які доўжыўся два дні і меў нечаканы працяг

Сёлетні справаздачна-выбарчы сход быў не падобны на ранейшыя. Не было на ім доўгага і нуднага даклада, не было выступленняў-рапартаў, не было затрыбунных звядзенняў асабістых рахункаў і г. д. Усяго гэтага не было. Затое былі грамадзянская страснасць, вострая палемічнасць, сапраўдная партыйная прынцыповасць і адказнасць.

Для пачатку згадаем даклад.

«Трэба прызнацца: сёння мы яшчэ не можам пахваліцца, што ў нашай літаратуры з'явіліся асабліва значныя творы на бурным матэрыяле новых падзей. І ў прозе, і ў паэзіі, і ў драматургіі пакуль што ідзе подступ да важнай і адказнай тэмы», — сказаў сакратар партбюро СП БССР Генадзь Пашкоў.

Разам з тым ён адзначыў, што апошнім часам пакатыўнела пісьменніцкая публіцыстыка, што асобныя выступленні літаратараў рабіліся прадметам шырокага грамадскага абмеркавання (дакладчык прыгадаў тут артыкулы ва ўсесаюзным і рэспубліканскім друку В. Быкава, І. Шамякіна, М. Танка, Н. Гілевіча, М. Матукоўскага, Б. Сачанкі, А. Казловіча і многіх іншых). Тым не менш, адзначыў Г. Пашкоў, гаворку пра надзённыя тэмы экалогіі, гісторыі, асветы, роднай мовы трэба паглыбляць, накіроўваць у канструктыўнае рэчышча, часцей узнімаць актуальныя пытанні палітыкі.

Шмат якія аспекты работы Саюза пісьменнікаў былі ахоплены справаздачным дакладам. Развіццё дзіцячай літаратуры і літаратурнай крытыкі, работа выдавецтваў і творчых секцый, Бюро прапаганды і Літфонду, клопат аб літаратурнай моладзі і маральным клімаце ў пісьменніцкай арганізацыі — няпоўны пералік тэм, якія былі ў ім закрануты (хоць, заўважым, без належнай глыбіні і канкрэтнага аналізу). Праўда, інфармацыйны бюлетэнь аб рабоце партбюро і анкета, распаўсюджаная сярод камуністаў напярэдадні сходу, сведчылі пра пэўнае ажыўленне партыйнай работы, пра пошук новых форм.

Адным словам, як сказаў потым адзін з прамоўцаў, «нешта рабілася, а нешта і не рабілася». Вось гэтая няпэўнасць, відаць, і з'явілася прычынай таго, што сход доўга вагаўся, як ацаніць работу партыйнага бюро, усёй партарганізацыі за справаздачны перыяд. Некаторыя камуністы напачатку наогул прапаноўвалі ацаніць здавальняюча толькі работу партыйнага бюро, а не ўсёй арганізацыі...

Наогул, абгаварэнне справаздачнага даклада разгортвалася досыць вяла. Старшыні сходу М. Матукоўскаму прыходзілася ўвесь час заклікаць камуністаў выступаць больш актыўна. Тут найбольш запомніліся выступленні Віктара Карамазава і Артура Вольскага.

(Заканчэнне на стар. 2—3).

## ХТО Ў ГОСЦІ СЁЛЕТА ДА НАС?

**20 лістапада адкрываецца XV Усесаюзны фестываль мастацтваў «Беларуская музычная восень».**

**Сёлетняя «восень» прынясе вялікае харавое свята: Акадэмічны хор Латвійскай ССР (кіраўнік І. Цэпіціс), два харавыя калектывы пад кіраўніцтвам У. Мініна.**

**Адметнасць цяперашняга фестывалю ў творчай садружнасці музыкантаў з розных рэспублік: Маскоўскі камерны хор (кіраўнік У. Мінін) выступае разам з Дзяржаўным камерным аркестрам БССР (дырыжор А. Палянічка), хор Латвійскай ССР — з Акадэмічным сімфанічным аркестрам УССР (кіраўнік І. Блажкоў). У канцэрце лаўрэатаў першых прэмій міжнародных конкурсаў вакалістаў 1986-88 гг., якіх прадставіць знакамітая І. Архіпава (таксама ўдзельніца «восені»), будзе спяваць моладзь з розных саюзных рэспублік, у тым ліку з Беларусі.**

**Сімфанічныя, харавыя, разнастайныя камерныя праграмы, канцэрты народнай музыкі, джаз, рок, танцавальныя прадстаўленні і эстрадныя шоу. Госці з Малдавіі, Грузіі, Эстоніі, Расіі, Украіны, Латвіі, Славеніі... Багата фарбаў у фестывалю.**

ПРЭМ'ЕРА РУБРЫКІ

## ПЕРАБУДОВА І МІЖНАЦЫЯНАЛЬНЫЯ АДНОСІНЫ

**Адным з галоўных дакументаў, якія былі прыняты XIX Усесаюзнай канферэнцыяй КПСС, з'яўляецца рэзалюцыя «Аб міжнацыянальных адносінах». У рэзалюцыі адзначаецца, што «дынамізм, уласцівы пачатковаму этапу фарміравання многанацыянальнай дзяржавы Саветаў, быў істотна страчаны і падарваны адыходам ад ленінскіх прынцыпаў нацыянальнай палітыкі, парушэннямі законнасці ў перыяд культу асобы, ідэалогіяй і псіхалогіяй застою», што «партыйная канферэнцыя лічыць задачай гістарычнай важнасці ўсталёўваць і творча развіваць ленінскія нормы і прынцыпы нацыянальнай палітыкі, рашуча ачышчаць іх ад штучных наслаенняў і дэфармацый».**

**Канферэнцыя, як вядома, падтрымала прапанову аб правядзенні Пленума ЦК КПСС па пытаннях нацыянальных адносін. Сёння мы з'яўляемся сведкамі таго відавочнага факта, што рашэнне партыйнай канферэнцыі выконваецца. Пытанні падрыхтоўкі Пленума ЦК КПСС па ўдасканаленні міжнацыянальных адносін былі разгледжаны на пасяджэнні Палітбюро ЦК, якое адбылося 13 кастрычніка. На пасяджэнні, якое адбылося 10 лістапада і было прысвечана актуальным пытанням рэформы палітычнай сістэмы, члены Палітбюро ЦК разгледзелі таксама праблему гарманізацыі адносін паміж Саюзам ССР і саюзнымі рэспублікамі, прааналізавалі стан падрыхтоўкі адпаведнага Пленума ЦК. І вось, як паведаміў друк у канцы мінулага тыдня, ЦК КПСС разгледзеў пытанне аб практычнай падрыхтоўцы да Пленума ЦК КПСС. Прынята спецыяльная пастанова, у якой канчаткова акрэслены тэма Пленума: «Аб удасканаленні міжнацыянальных адносін у СССР» і час яго правядзення — сярэдзіна 1989 года. Тэзісы даклада на Пленуме, сказана ў пастанове, будуць апублікаваны за два месяцы да яго склікання. У пастанове ідзе таксама гаворка аб неабходнасці «шырокай публікацыі матэрыялаў па пытаннях тэорыі міжнацыянальных адносін, вопыту рашэння нацыянальнага пытання ў СССР і за мяжой», інфармавання ЦК КПСС аб «прапановах па ўсяму кругу пытанняў, звязаных з нацыянальнай праблематыкай».**

*Адкрываючы новую рубрыку («Перабудова і міжнацыянальныя адносіны») артыкулам літаратуразнаўцы, прафесара У. Калесніка «Чалавек чалавеку, народ народу...» (гл. стар. 5), нагадаем, што на старонках «ЛіМа» ўжо закраналіся ў апошні час некаторыя аспекты данай праблемы). У прыватнасці, у артыкулах «Дзяржаўная — значыць раўнапраўная» Ю. Авяр'янава і «Наш любимый Никитá...» Г. Каржанеўскай.*

## ПЕРАБУДОВА І МІЖНАЦЫЯНАЛЬНЫЯ АДНОСІНЫ

Уладзімір КАЛЕСНІК

# Чалавек чалавеку, народ народу...

ГРАМАДСКАЕ сумленне, грамадская думка, яе складванне і функцыяніраванне, яе роля ў грамадскім жыцці—вось праблемы, важныя не толькі для творчай і навуковай інтэлігенцыі, але і для ўсяго народа.

У моцных беларускіх калгасах людзі цалкам не прымаюць ходкага зараз тэрміна «час застою». «Які застой? Ці ж мы не працавалі дзень і ноч? І не так, як многія сёння,— агінаючыся, а на поўную сілу». Падобныя выказванні я чуў не раз ад знаёмых калгасных кіраўнікоў і спецыялістаў, ад землякоў.

Ці не тут таямніца беларускага феномена? Справа ў тым, што якраз у застойны перыяд рэспубліка атрымала другога за сваю гісторыю пасля А. Р. Чарвякова, сапраўднага ўсенародна прызнанага лідэра — Пятра Міронавіча Машэрава. Ён меў смеласць крытычна ставіцца да прадпісанняў зверху. І ўсё ж два дзесяцігоддзі, якія папярэднічалі XXVII з'езду, сталі для Беларусі супярэчлівым перыядам. Рэспубліка культывавала значную колькасць забалочаных земляў, тарфянікі сталі сенажацямі і ворнымі землямі, але разам з тым яна спазнала экалагічныя беды — у выглядзе тарфяных і пясчаных бураў, ваду ў некаторыя вёскі Палескай нізіны і зараз прывозяць у цыстэрнах. Рэспубліка стала магутнейшым у краіне вытворцам калійных угнаенняў і ў той жа час страціла пад тэрыконамі і лужынамі солевай вады самыя ўрадлівыя лёсавыя глебы Случчыны. Рэспубліка збудавала даволі вялікую колькасць аб'ектаў культуры ў вёсцы, сучаснага жылля, прыстойную школьную базу, але ў той жа час дапусціла адрыў зместу культурнай работы, асветы і выхавання моладзі ад нацыянальнай, народнай глебы, разрастанне маскультуры.

Такім чынам, парадоксы: даволі паспяховае праяўленне ініцыятыўнасці ў эканоміцы, абнаўленне сельскай гаспадаркі пры жорсткай, артадаксальнай, арыентаванай на задобрыванне цэнтра ідэалогіі. Спроба П. М. Машэрава перанесці гэты прыём камуфляжу на нацыянальную сферу дзеля абароны твару рэспублікі не магла даць жаданага выніку, паколькі сама гэта сфера ідэалагізавана знутры і патрабуе большай гуманізацыі, чым, да прыкладу, вытворчыя адносіны ў сельскай гаспадарцы. Нават бяскрыўднае, здавалася б, жаданне першага сакратара ўвесці этыку ў школы рэспублікі і тым узняць этыку грамадскіх адносін увогуле натыкалася на глухое супраціўленне. Рэверансы П. М. Машэрава, запэўніванні ў любові і адданасці цэнтру дзейнічалі мала. Яго ж намер вярнуць творчай інтэлігенцыі яе былы законны статус ініцыятара грамадскай думкі, даць ёй больш свабоды, праяўляць цярпімасць да палётаў фантазіі, да эмоцый сустракаліся ў штыкі зубастым і яшчэ моцным у рэспубліцы сталінісцкім лобі, схаўрусаваным пад час трагічнай контрбеларусізацыі ў 1929—1937 гг., якая выгнала за межы рэспублікі ці забрала з жыцця вядучую частку нэпаўскага працоўнага сялянства і народнай інтэлігенцыі, у тым ліку партыйнай ленінскай гвардыі на чале з Чарвяковым, Галадзедам і Жылуновічам. Помслівасць ганіцеляў і іх наступнікаў аказвалася мацней добразычлівасці першага сакратара ЦК КПБ. Так мы і дажыліся да «абез'язычвання» маладога пакалення беларусаў, адлучэння ад роднай мовы гарадскіх жыхароў і моладзі — усё ў пагоні за прэстыжнасцю.

Беларускі бюракрат ад ідэалогіі, асветы і культуры часта сам па добрай волі чыніў «подзвіг» манкурта, адмаўляючыся ад роднай мовы і духоўных каштоўнасцяў народа, абвяшчаў прэстыжным пацешнае мастацтва відовішч, знайшоў «смак» у эстраднай ліхаманцы, цыркавой клаунадзе, эйфарыі футбольных «баленняў». Спажывалася ўсё гэта як духоўны дадатак да сауны, да гулянак за дзяржаўны ці калгасны кошт. Дык дзе ж быў застой, дакладней гнайнік мінулага дваццацігоддзя? Калі гаварыць пра Беларусь, то не столькі ў самой вытворчасці і вытворчых адносінах, колькі ў сферы грамадскіх адносін, адкуль негатыўныя з'явы экстрапаліраваліся на сферу духоўнай вытворчасці, і тая вырабляла замест стымулятараў дэпрэсанты, а то і ўвогуле паралітычнае зелле.

Рост дзьмутых аўтарытэтаў і фарміраванне эліт па рашэнні зверху — вось формула застойных з'яў у маім разуменні. Пратэст знізу быў бессэнсоўны, бо так далёка адарваліся вярхі ад нізоў, што апынуліся ў становішчы вечна такуючых глушцоў. Фарміраванне эліт нават сярод рабочых пайшло па фармальна бюракратычных рэйках: падымаліся ўверх і ўзнагароджваліся не самыя лепшыя прадстаўнікі ўсіх прафесій, а ў асноўным асабліва патрэбных у дадзены момант прафесій, ці тыя, хто ратаваў занядбаныя дзялянкі вытворчасці. Скажам, званне Героя Сацыялістычнай Працы па Брэсцкай вобласці атрымалі дзесяткі даярак, свінарак, механізатараў, жывёлаводаў і толькі адна-адзіная настаўніца. Ды і тая аказалася ў гераінях выпадкова: была заўважана самім Машэравым як выдатная выкладчыца рускай мовы і літаратуры пад час яго паездкі на Палессе для барацьбы з паводкай.

З пункту гледжання нацыянальных адносін у СССР гады застою фактычна былі гадамі маўклівага заціскання і руйнавання нацыянальных суверэнітэтаў рэспублік і краёў. Напачатку М. С. Хрушчоў, відаць, адкупляючыся ад сталіністаў, якія палохалі яго тым, што распачатае выкрыццё злачынстваў Сталіна паслабіць саюз рэспублік, спрабаваў старымі адміністрацыйнымі метадамі «ўзмацняць» адзінства народаў СССР. Перад стараннымі нацыянальнымі бюракратамі адкрылася шырокае поле дзейнасці, мажлівасць паспаборнічаць: хто ў сваёй рэспубліцы хутчэй перавядзе грамадскае жыццё і сферу народнай асветы на «ўсесаюзную» мову. Беларусь стала не проста чэмпіёнкай, але краінай цудаў па тэмпах бюракратычнай «інтэрнацыяналізацыі». Беларуская мова знікла з усіх публічных форумаў, была выціснута з гарадскіх школ, ВНУ. Для адводу вачэй у рускамоўных школах было пакінута па два-тры ўрокі беларускай мовы і літаратуры на тыдзень, наведваліся гэтыя ўрокі «па жаданні», а ўрокі замежнай мовы засталіся абавязковымі. Справа даходзіла да кур'ёзаў: у некаторых гарадскіх рускамоўных школах беларуская літаратура выкладалася на рускай мове. Адным словам, быў адпрацаваны ціхі спосаб дэнацыяналізацыі падрастаючага пакалення, адрыву яго ад скарбонкі нацыянальных каштоўнасцяў, створаных народам на роднай мове, і па меры сіл памнажаемых гуманітарнай і творчай інтэлігенцыяй рэспублікі.

У сувязі з гэтым лічу, што важнай задачай па пераадоленні застою, а дакладней ціхай контрбеларусізацыі, мог бы стаць перагляд заканадаўчых актаў, якія былі прыняты ў рэспубліцы па рэкамендацыі зверху на шкоду нацыянальнай культуры, вяртанне беларускай мове статусу дзяржаўнай.

Удасканаленне нацыянальных адносін мае шанс толькі ў тым выпадку, калі яно будзе распрацоўвацца і ажыццяўляцца па ўсіх накірунках, комплексна, як адзіная дынамічная сістэма. Нацыянальная сфера ў Беларусі функцыянірue на сумежжы дзвюх больш моцных культур — рускай і польскай, таму і зліквідаванне дэфармацый магчыма, як мне здаецца, шляхам выкарыстання вопыту гэтых народаў, а таксама краін сацыялістычнай садружнасці, асабліва шматнацыянальных — Югаславіі, Чэхаславакіі, Кітая. Пажадана разглядаць у комплексе нацыянальнае, інтэрнацыянальнае, агульначалавечае як кампаненты сістэмы развіцця новага мыслення і абнаўлення рэальнага сацыялізму ў нашай краіне і ва ўсім свеце. Трэба заклікаць вучоных да вызначэння рэальных вымярэнняў ступені спеласці нацыянальнай свядомасці грамадзян Савецкай краіны ў розных рэспубліках і краях і прапаноўваць канкрэтныя рэкамендацыі. Нацыянальная недаразвітасць і нацыянальная гіпертрафія — ці павінны яны палохаць грамадства? Вопыт мінулага павінен зрабіць нас больш адкрытымі і адчувальнымі да небяспечнасці ўсялякіх эксперыментаў на ўзроўні класаў і нацый, асабліва ўжывання прынукі, не пытаючыся гэтых класаў і нацый, як яны хочуць жыць, хоць бы эксперыментатары і хацелі б іх ашчасліваць. Мне ўяўляецца, што добраахвотныя калектывы, грамадскія ініцыятыўныя арганізацыі і групы могуць стаць асноўнымі стымулятарамі і ініцыятарамі нацыянальнага развіцця. Трэба адрадзіць грамадскую ініцыятыўнасць інтэлігенцыі, узняць яе ролю — у аздараўленні клімату і духоўнай напоўненасці сям'і адзінай. Заслугоўвае ўвагі праблема нацыянальнай інтэлігенцыі ў сацыялістычных краінах, аптымальныя суадносіны ў ёй тэхнічнай, гуманітарнай і мастацкай груп на пэўных фазах грамадскага развіцця. Трэба аднавіць прэстыжнасць гуманітарнай інтэлігенцыі, якая працуе на ніве нацыянальных культур малых нацый і народнасцяў.

Кадры нацыянальнай інтэлігенцыі не трэба «рыхтаваць», іх трэба выхоўваць, а для гэтага варта стварыць базу для свабоднага абмену думкамі па ўсіх без выключэння пытаннях нацыянальнага жыцця «на месцах», даць магчымасць пад час дыскусіі выявіць сябе дапытлівым вучоным, публіцыстам, пісьменнікам. Яны стануць «кадрамі» не па дыпломах, а па здольнасцях, па заслугах. Сказана ж: што «павінны быць разыходжанні паміж вамі, каб выраслі сярод вас здольныя і ведаючыя».

Лічу першачарговай задачай гуманізацыі жыцця ачысціць тэрыторыю ад ідэалагічнага прагматызму, вярнуўшы нацыям гістарычную перспектыву развіцця, права на аптымізм, моцна падарванае вульгарным абыходжаннем з гіпотэзай К. Маркса аб адміранні нацый. Прагматычнае трактаванне навуковага прадбачання як нейкай праграмы ці дырэктывы, якая дапушчае датэрміновую рэалізацыю, прыводзіць заўзятых адміністратараў да «законнага», а на справе валявога кіравання працэсам і да парушэння свабоды развіцця нацый. Збліжаючы тэорыю з практыкай, пажадана, на мой погляд, тэарэтычна асэнсаваць і апрабіраваць ва ўмовах сацыялістычнага грамадства ідэю збліжэння нацый. У час застою збліжэнне часта разумелася як падрыхтоўка да кампаніі зліцця нацый, чым стваралася рэальная пагроза знікнення малых нацый і народаў пад час узмацнення большых. Трэба зразумець, што падобнае тлумачэнне робіць бессэнсоўнай дзейнасць па развіццю нацыянальных культур, іх сацыялістычнаму ўзбагачэнню, сее сумненні ў тым, ці патрэбны гэтыя культуры ўвогуле, і міжволі вылучае рускую культуру як базавую для пераходу да агульначалавечай. Час нам усім і ўсенародна адмовіцца ад маніпуляцый грамадскімі пачуццямі, абмежаваць знешняе кіраванне нацыянальнымі ўзаемаадносінамі. Калі сфера нацыянальных пачуццяў і адносін прызнаецца ў многіх адказных прамовах нашых дзеячаў складанай і далікатнай, то не варта аддаваць яе ўпраўляючым і ўпраўленцам, а пакінуць у распараджэнні ўсёй грамадскасці, абвясціць яе свабоднай арэнай грамадскай самадзейнасці, ініцыятыўнасці, творчасці. Нацыя ва ўмовах сацыялістычнага грамадскага ладу сама павінна ўзяць курс на прагрэс, і яна возьме, я ў гэтым упэўнены, курс на здаровую цікавасць да другіх народаў, на добрасуседства, добразычлівасць, партнёрства. Гэта прывядзе да выпрацоўкі прынцыпова новай культуры нацыянальнага і міжнацыянальнага сумоўя, да свабоднага братання народаў і культур. Пад культурай сумоўя я разумею перш за ўсё здольнасць да партнёрства вялікіх нацый, якім трэба пазбавіцца ад пачуцця перавагі і жадання дамінаваць, і нацый малых, якім трэба пазбаўляцца пачуцця непаўнацэннасці, асцярогі быць заціснутымі ў кут гісторыі ці знікнуць з карты свету. Трэба заклікаць увесь народ мабілізаваць інтэлект і волю, а перш за ўсё гуманітарыяў, стварыць атмасферу, у якой нацыянальнае чванства, пачуццё выключнасці асуджаліся б як ганебныя. І нацыяналізм, і нацыянальны нігілізм аднолькава павінны лічыцца сацыяльным дэфектам асобы.

Трэба вывучыць прычыны, даць аналіз і ацэнку такіх сумных памылак дзяржаўнага маштабу, як прымусовае высяленне татар з Крыма, народнасцяў Каўказа, немцаў Паволжа. Асуджаючы гэтыя праявы гвалту, неабходна выправіць законы, якія б выключалі магчымасць паўтарэння падобнага самавольства ў будучым. Грунтоўнага аналізу заслугоўвае і тая акалічнасць, што гвалтоўнае правядзенне калектывізацыі ў нацыянальных рэспубліках, краях і абласцях суправаджалася спекуляцыямі на нацыянальным пытанні, выдумваннем неіснуючых контррэвалюцыйных нацыяналістычных цэнтраў, дыверсійных арганізацый, кампаній шкодніцтва, а на самай справе мела месца папросту бяздарнае кіраўніцтва, галавацяпства і нядбайства мясцовых улады самаволле ўпаўнаважаных, інструктараў і інш.

Мне здаецца, тэарэтычны генезіс сталінізму можна вывесці з практыкі механістычнага выкарыстання ідэй сацыяльнага дарвінізму, канкрэтна: гэта перавернутая і пераадрасаваная тэорыя Спенсера аб генетычным адборы эліты ў працэсе капіталістычнай вытворчасці. Прадпрымальныя прамыслоўцы, гандляры, арганізатары сферы паслуг, пастаўшчыкі асалод, адным словам, мільянеры і мільярдэры, людзі поспеху лічыліся паводле Спенсера — генетычна вышэйшай групай за рабочых, сялян, рамеснікаў, адным словам, за простых выканаўцаў, стваральнікаў каштоўнасцяў —дробных уласнікаў. Працоўная маса—гэта па Спенсеру— генетычна ніжэйшы пласт, а пануючыя вярхі — гэта генетычна адабраная эліта. Сталіністы перавярнулі формулу Спенсера, але не адмянілі яе, а пераставілі яе члены: аб'яўляючы звыраднелымі пануючыя класы, а працоўных генетычна здаровым элементам, здольным гуртавацца і падпарадкаваць сваёй волі ўласнікаў, да якіх залічваліся не толькі прамыслоўцы, гандляры, арганізатары паслуг, а таксама ўдачлівыя рамеснікі і прадпрымальныя сяляне (кулакі), але творчая і навуковая інтэлігенцыя — уласніца ведаў. Адным словам, сталіністы ўзяліся вымусіць фізічнаю сілай пераконанне, быццам пралетарыят гарадоў і вёсак — генетычна вышэйшы пласт грамадства. Пішчыць ва ўсіх сталінісцкіх сацыяльных праграмах не што іншае, як сацыял-дарвінізм, штучна прышыты да марксізму. Глыбокая ўнутраная супярэчлівасць у самой ідэалогіі сталінізму добра пасавала да валюнтарысцкай практыкі, якая нярэдка апярэджвала тэорыю каманднa-рэпрэсіўнымі кампаніямі.

Злачыннасць Сталіна і групы прыбліжаных да яго людзей шчыльна прыкрывалася фанатызацыяй грамадства, укараненнем ідэалагічных міфаў пра татальны характар класавай барацьбы, пра дамінацыю класавага над нацыянальным, пра класавую бяззубасць і хібнасць агульначалавечага. Фанатызацыі служылі адроджаныя ў маштабах дзяржавы патрыярхальна-феадальныя звычкі пакланення правадыру-сюзерэну, які разыгрываў ролю бацькі народаў, абаронцы і даравальніка дабра і свабод сваім падданым. Паралельна з фанатычным дурманам дзейні-

(Заканчэнне на стар. 6—7).

**Мяшчанскія**
**на нас**
**папёрлі банды!**
**Прынюхайся, як след,**
**якія ў іх пах.**
**Ім стала мала**
**проста грошы мець,**
**Са скуры лезці, каб паболей**
**выдраць,**
**Яны нам**
**пачалі мараль падкідваць**
**Сваіх пацёртых —**
**ідэалаў медзь.**

Асноўнымі сродкамі аўтарскага самавыяўлення ў лірычных адступленнях становяцца з'едліва-саркастычная насмешка, іронія, скіраваная супраць прыстасавальніцтва ў мастацтве:

**Пара суняць паэтаў рацъ,**
**Што рвуцца ў бойку:**
**Усіх іх пранумераваць,**
**Па рангах іх рассартаваць**
**І па абоймах.**

Знарок утрыравана, перабольшана натуралістычна выпісаны бытавы партрэт «паэта». «Бліскучы шчыт іроніі! — зазначае Ю. Палякоў. — Мы закрываліся ім, калі на нас абрушваліся гразепады напышлівай хлусні, і, магчыма, таму не акамянелі» («ЛГ», 1988, 26 кастр.).

Ёсць у кнізе яшчэ адна паэма — «Гарбун», якая вучыць спагадлівасці да чужога гора. Андрэй Крушына, герой твора, пакутліва перажывае сваё калецтва і, каб забыць бяду, спрабуе адгарадзіцца ад людзей. Ён увесь час сам-насам з уласнай неўладкаванасцю, імкненнем знайсці сябе ў справе. Яго паводзіны псіхалагічна матываваныя і зразумелыя, аднак не ўсё можна прыняць у паэме.

Паэт паспяхова развівае жанр балады. Адштурхоўваючыся ад сюжэта паэмы «Курган» Я. Купалы, У. Някляеў у «Баладзе гусляў» стварае падобную гераічную постаць народнага заступніка, які беражліва захоўвае яго памяць. У баладзе «Кажух», як і ў «Палаце мінёраў» Р. Барадуліна, узнаўляецца адна з трагічных старонак пасляваеннага дзяцінства, калі жыццё падлеткаў абрывалася ад выбухаў смертаносных «цацак» толькі што адгрымеўшай вайны. Сучасная праблематыка па-майстэрску спалучаецца з традыцыйнай формай сюжэтнага верша ў «Баладзе горада». Узаемадносіны з горадам у паэта складаныя, далёкія ад ідыліі урбаністычнага ўслаўлення («Мне зямля твая, горад — атрутная, злая, чужая — стала роднай зямлёй»).

Кожны верш у кнізе «Наскрозь» нагадвае невялічкую сцэнку са спектакля, назва якога — жыццё з яго паўсядзённым клопатам і вечнай верай у заўтра. Гучнасць, эстраднасць паэтавага голасу спалучаецца з лірычным светаўспрыманнем. Няспынныя пошукі вядуць яго сваімі, адметнымі сцяжынамі.

**Любоў ГАРЭЛІК.**

**кі, выдадзеная на сродкі Рэспубліканскага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, складаецца з дзвюх частак. У першай апавядаецца аб усіх помніках мураванага полацкага дойлідства. Акрамя Сафійскага сабора, тут захавалася гарадская забудова XVIII—пачатку XX стагоддзя, славуты Спаскі манастыр, Багаяўленскі сабор і лютэранская кірха.**

**У архітэктуры горада аўтар выдзяляе тры перыяды: самы яскравы і самабытны, што склаўся ў XII стагоддзі—час стварэння полацкай архітэктурнай школы, перыяд эпохі барока (XVII—XVIII стст.) і эпоха класіцызму (канец XVIII—пачатак XIX стагоддзя). У часы класіцызму канчаткова сфарміравалася і ў асноўным дайшла да нашых дзён планіровачная структура горада, была створана цэнтральная гарадская плошча. Найлепш перадае гістарычны каларыт вуліца Леніна, дзе захавалася шмат драўляных і мураваных дамоў канца XIX—пачатку XX стагоддзя, аздобленых разнымі ліштвамі, каванымі кранштэйнамі і балконамі.**

**Вяртанне памяці—так гучыць назва апошняй часткі. У ёй апавядаецца пра сённяшні стан полацкага дойлідства, аб рэстаўрацыі помнікаў і прыстасаванні іх да сучасных патрэб горада.**

**Вельмі добра, што ў канцы абедзвюх брашур змешчаны кароткі слоўнік незразумелых слоў і архітэктурных тэрмінаў. Аднак адзін тэрмін «пальчатка» патрабуе ўдакладнення. Справа ў тым, што гэты тып цэглы з'явіўся на Беларусі не ў XVII—XVIII стст., а значна раней—у другой палове XIII стагоддзя.**

**Спадзяюся, што гэтыя кнігі знойдуць прыхільнікаў сярод краязнаўцаў і турыстаў. У сувязі з гэтым варта пажадаць выдавецтву «Полымя» па прыкладу нашых літоўскіх сяброў стварыць спецыяльную серыю брашур пад адзінай рубрыкай (шэдэўры беларускай архітэктуры, напрыклад). Аб стварэнні такой серыі ішла зацікаўленая гаворка на адным з пасяджэнняў краязнаўчай камісіі Беларускага фонду культуры. Члены камісіі рэкамендавалі выдаваць гэтую серыю на роднай мове з кароткім рускім і англійскім рэзюме ў канцы кожнай кнігі.**

**Алег ТРУСАЎ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

Думаю, калі ўжо ствараць якія-небудзь дзяржаўныя органы са штатамі і навуковыя ўстановы, то хіба што камісію Вярхоўнага Савета СССР па нагляду за захаваннем суверэннасці нацыянальных рэспублік, аўтаномнасці краёў і абласцей, за ажыццяўленнем канстытуцыйнага раўнапраўя, за наяўнасцю рэальных умоў для развіцця культуры нацыянальных меншасцяў, іх моў і духоўных каштоўнасцяў.

Сярод самадзейных нефармальных арганізацый мне бачыцца карысней побач з таварыствам па ахове помнікаў культуры, узнікненне таварыства па ахове нацыянальнай годнасці, заахвочвання добрых звычак і звычаяў, добразычлівасці і гасціннасці, у тым ліку і да перасяленцаў з іншых рэгіёнаў. Але ў той жа час, думаю, быў бы карысным невялікі орган па ўліку і разумнаму рэгуляванню міграцыі насельніцтва, здольны стрымліваць прафесійных «летуноў», што дэманструюць знявагу да стваральнага, сумленнага жыцця. Лічу наспелым пытаннем увядзенне гаспадарчага разліку паміж нацыянальнымі рэспублікамі і цэнтрам. Як гэта арганізаваць, не магу сказаць кампетэнтна, аднак цвёрда ведаю, што без усведамлення і ўпэўненасці, што я і мой народ, мая рэспубліка жывём на свой кошт і па сродках, якія мы ў стане сёння выпрацаваць, без усяго гэтага не можа быць і патрэбных матэрыяльных стымулаў і здаровага пачуцця нацыянальнай годнасці.

Думаючы пра стварэнне ўстаноў і цэнтраў па вывучэнню нацыянальных адносін і кіраўніцтву ўзаемасувязямі, зазначу, што тут трэба асцерагацца бюракратызацыі добрай справы. Увогуле неабходна заняць прынцыповую пазіцыю ў адносінах да выкарыстання прымусовых мер уздзеяння на нацыянальную сферу. Выпрацаваць заканадаўчыя акты па дапушчальнасці і формы правядзення ўзброеных акцый і іншых прымусовых спосабаў навядзення грамадскага парадку ў нацыянальных рэгіёнах краіны. Усім павінна быць вядома, калі, у якіх выпадках адбудзецца ўвядзенне ў нацыянальны рэгіён унутраных войск і рэзерваў міліцыі, падпарадкаваных саюзнаму ўраду. Трэба вызначыць формы іх дзеяння і межы кампетэнтнасці, формы іх супадпарадкавання мясцовым органам улады. У гэтай сферы ўсё павінна быць ясна кожнаму — як у боксе ці футболе, каб сама магчымасць такіх дзеянняў не палохала і не давала падставу для нездаровых настрояў і чутак.

Я хацеў бы пачуць з трыбуны Пленума простае, як праўда, і яснае, як сумленне дзіцяці, сцвярджэнне, што кіраваць мае права толькі той, хто любіць свой народ, глыбока цікавіцца яго культурай, валодае ўнутраным багаццем інтарэсаў і патрэб, здольнасцю разумець чалавека не толькі ў працы, але і ў яго духоўных сувязях са светам, з людзьмі.

*Служба зваротнай сувязі*

# ПАЧНЁМ З СЯБЕ

## ПІСЬМЫ АБ РОДНАЙ МОВЕ

Па-ранейшаму ў рэдакцыю прыходзіць вялікая колькасць пісьмаў, тэматыка якіх звязана з лёсам роднай мовы. Заклапочанасць нашых чытачоў зразумела: нягледзячы на меры, што прымаюцца ў апошні час для адраджэння і развіцця беларускай мовы, становішча спраў усё яшчэ пакідае жадаць лепшага...

Пачнём наш агляд з двух, нечым блізкіх, допісаў. **А. Нікалаеў,** настаўнік нямецкай і англійскай моў з Мінска, паведамляе, што «ў 18-ай сярэдняй школе Магілёва праходзіць эксперымент па навучанні вучняў замежнай мове з шасці гадоў... Нашы педагагічныя дзеячы зноў кінуліся ў крайнасць, захацеўшы здзівіць свет: у нас, маўляў, замежную мову дзеці пачынаюць вывучаць раней, чым родную... Я ж лічу, што пачатковая школа павінна быць нацыянальнай, і рускую мову трэба вывучаць не раней, чым з апошняга года гэтай школы. А замежную мову трэба вывучаць пасля таго, як у вучняў будзе закладзены трывалы падмурак ведаў на роднай мове».

Той жа думкі прытрымліваецца і настаўнік, член моўнай камісіі Беларускага фонду культуры **Я. Цумараў:** «Як бы добра ні выкладалася родная мова, вучань не далучыцца да яе духоўнай сутнасці, калі не навучыць яго жыць у роднай моўнай стыхіі, прычым з ранняга дзяцінства. З першага кроку дзіцяці, з дзіцячага сада і з першага класа (а не з другога, як прапануе Міністэрства народнай адукацыі БССР) родная мова павінна зрабіцца рабочай мовай, мовай дзіцячых гульняў і зносін у дзіцячых калектывах...»

Факты ж сведчаць, што не толькі ў пачатку свядомага ўзросту, а і значна пазней перавага ў сістэме навучання аддаецца «пашырэнню кругагляду» менавіта праз замежныя мовы. «Кожны дзень па праграме Беларускага тэлебачання, — піша наш чытач **Р. Тарасевіч,** — трансліруюцца *заняткі па нямецкай,* французскай, італьянскай, англійскай мовах. Але дзе ж побач з замежнымі месца нашай роднай, беларускай мове? Чаму ніколі не бачыў я адпаведнай тэлеперадачы па вывучэнні роднага слова, перадачы, такой неабходнай і для дзяцей, і для нас, дарослых?»

Вядома ж, сапраўды адукаваны чалавек павінен ведаць замежныя мовы. Аднак у нас веданне гэтае ўспрымаецца ў іншым разуменні: маўляў, гэта прэстыжна, да таго ж замежная мова можа спатрэбіцца на розных этапах жыцця, а родная наўрад ці... Адкуль жа гэта «пачуццё другасортнасці ўласнай культуры», як трапна адзначыў у сваім пісьме чытач са Слуцка **Г. Шаўцоў?** Ён, як і многія нашы аўтары, з болем і абурэннем піша: «Можна яшчэ растлумачыць тое, што прыезджыя ў Беларусь патрабуюць вызвалення ад беларускай мовы, хаця тым самым яны выказваюць пагарду нашаму народу, які гасцінна іх прымае. Але як адбылося такое, што мы самі адракаемся ад сваёй мовы, гісторыі?!» Можа, гэта здараецца таму, што людзі не ведаюць сваёй гісторыі, роднай літаратуры, музыкі? — пытаюцца чытачы. Мінчанін **Н. Галаўня** правёў невялікае апытанне сваіх субяседнікаў, якія ў асноўным маюць, дарэчы, вышэйшую адукацыю, і прыйшоў да невясёлых вынікаў: «Большасць беларусаў і людзей іншых нацыянальнасцей, што жывуць на Беларусі, не ведаюць, якая плошча рэспублікі ў сучасных межах, на колькі абласцей падзелена рэспубліка, ну а колькасць раёнаў называюць толькі рэдкія людзі. Амаль ніхто не ведае прозвішча, імя і імя па бацьку Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР. Аб дрэнным веданні, дакладней—няведанні гісторыі сваёй рэспублікі сведчыць поўная бескультурнага пафасу палеміка на старонках газет вакол беларускай сімволікі...»

Многія чытачы пішуць аб мэтазгоднасці вяртання да ранейшага беларускага правапісу. Пра гэта — лісты **А. Чыжава** з Гомеля, урача-стаматолага Дараганаўскай сельскай участковай бальніцы (Асіповіцкі раён) **А. Людчыка,** ваеннаслужачага з Масквы (ён родам з Клецкага раёна Мінскай вобласці) **В. Чайчыца.**

Самыя розныя аспекты моўнай сітуацыі ў рэспубліцы закранаюць нашы чытачы. Вось, скажам, такі ліст: «Гідам часта бывае няёмка, калі даводзіцца тлумачыць гасцям Мінска, чаму ў нас амаль уся рэклама, шыльды — на рускай мове?» А ў Пінску, паведамляе нам **П. Ляхновіч,** «амаль не знойдзеш шыльду на беларускай мове, а калі і знойдзеш, дык узор непісьменнасці накшталт манументальнага «МІРУ—МІР» на вуліцы Першамайскай...»

У апошні час становішча, *здавалася б, пачало* мяняцца: вось вам і беларускія класы, і беларускія групы ў дзіцячых садзіках... Але многія з гэтых «новаўвядзенняў», лічаць чытачы, робяцца пакуль што фармальна, для адводу вачэй: ствараюцца беларускамоўныя групы, а выхавацеляў, якія б добра ведалі мову, няма; пазакласная дзейнасць беларускамоўных школ праводзіцца на рускай мове, гаворка ж аб праблемах нашай культуры і мовы вядзецца ў асноўным на «сузіральным» узроўні. Вось што расказаў, *напрыклад,* Я. Цумараў: «Ад настаўніцтва Беларусі на Усесаюзны настаўніцкі з'езд па старой сістэме «прэзідыум прапануе — зала галасуе» выбрана 175 дэлегатаў, сярод іх: каля 30 кіраўнікоў органаў асветы ад райана да міністэрства і 22 адміністратары школ і вучылішчаў, 6 настаўнікаў беларускай філалогіі (і яшчэ два выкладчыкі ПТВ); 12 настаўнікаў рускай філалогіі; старшыні калгасаў, дырэктары прамысловых прадпрыемстваў, але — ніводнага пісьменніка, мастака, *вучонага-грамадазнаўца.* Узнікае пытанне: хто ж намерваецца па-рэвалюцыйнаму ўзнімаць праблемы роднай мовы на з'ездзе?»

А вось што піша чытач з Рыгі **В. Целеш,** беларус, які ўжо каля трыццаці гадоў жыве па-за роднай рэспублікай: «Чытаю ў «ЛіМе» ўсе меркаванні і прапановы па адраджэнні роднай мовы, аднак лічу, што гаворка так і застанецца гаворкай, а справа так і будзе стаяць на месцы, бо не адолець яе толькі дасведчанымі энтузіястамі, *паколькі зацверджана законам* — ды гэта і сапраўды дэмакратычна, — што прымушаць вывучаць тую ці іншую мову мы не павінны. Але ж гэтая фармуліроўка ёсць і будзе абаронай усім бюракратам, якім наша мова не патрэбная. Усе гэтыя людзі, пачынаючы з вярхоў, не захочуць адразу перабудаваць свой розум на тое, каб пачаць гаварыць па-беларуску...» Наш чытач не абмяжоўваецца эмоцыямі, ён параўноўвае «моўныя справы» ў Беларусі і Латвіі, «хоць латышская мова знаходзіцца і не ў такім стане, як беларуская...» Ён заўважае, што беларускі друк зусім не так настойліва і не так паслядоўна асвятляе гэтыя пытанні, як патрэбна, каб мець пэўныя вынікі. «Рыжская вячэрняя газета «Ригас Балсс» пастаянна друкуе матэрыялы, якія прапагандуюць вывучэнне латышскай і рускай моў аднолькава. А ці робяць гэта «Вячэрні Мінск», «Советская Белоруссия», «Знамя юности», іншыя абласныя і раённыя газеты, асабліва рускамоўныя? Бадай, адзін «ЛіМ»...».

«Калі наша мова будзе мець статус дзяржаўнай, — лічыць ужо згаданы намі П. Ляхновіч з Пінска, — то і кіраўнікі ўсіх эшалонаў будуць вымушаны ўжываць яе. А для радавых працаўнікоў мова начальніка — узор для пераймання...»

Вось мы і падышлі да гэтага, досыць складанага пытання, наконт якога існуюць сярод чытачоў розныя меркаванні. Той жа В. Целеш з Рыгі ў цытаваным лісце піша далей: «Калі начальства загаворыць па-беларуску, то і астатнія яго падтрымаюць, і мы чакаем іх прыкладу...» Даволі слушнае меркаванне, і яго выказвае не адзін і не два чытачы.

З аднаго боку, яны маюць рацыю: нашы міністэрствы, выканкомы, гаркомы, райкомы і г. д. — рускамоўныя, і пакуль іх работнікі не атрымаюць указанняў, у іх доўга яшчэ будзе ўладарыць адна мова. Але, з другога боку... Ці не атрымліваецца зноў так, што мы толькі чакаем загаду «зверху»? Абараняем галоснасць і дэмакратыю, а самі лічым, што без начальства родную мову не адрадзіць?..

У сувязі з гэтым прывядзём урыўкі з пісьма **У. Шушкевіча,** карэспандэнта лепельскай раённай газеты «Ленінскі сцяг». Ён нагадаў, перш за ўсё, як шукаў аднадумцаў, як браліся яны за выпраўленне моўнай сітуацыі ў раёне. Спачатку — артыкул у мясцовай газеце, потым — стварэнне нефармальнага аб'яднання і распрацоўка «Праграмы пашырэння выкарыстання беларускай мовы ў горадзе і раёне», якая ўключыла і такія, на першы погляд, фармальныя пункты, як замена рускамоўных назваў гандлёвых устаноў горада і раёна, розных шыльдаў, надпісаў. «Зразумелі нас партыйныя кіраўнікі, падтрымалі, нават параілі некаторым таварышам прыслухацца да грамадскасці. І вось ужо з-пад пэндзля мастака ПМК меліяратараў выходзяць беларускія словы»...

Мо не ўсё так безнадзейна? Наша мова і культура — у нашых руках. Адно бясспрэчна: трэба, каб родная мова гучала *як мага больш — па радыё,* тэлебачанні, дома, на вуліцы, на працы. «Давайце прапануем мінчанам, — піша жыхар Мінска **В. Кавалёў,** — на свяце горада дружна гаварыць па-беларуску, давайце ўвядзём Дзень роднай мовы...» Давайце не будзем чакаць, пакуль заварушыцца начальства (аднак спадзяёмся, што яно прыслухаецца да чытацкіх пісьмаў), а пачнём з сябе, сваіх родных, сяброў. Глядзіш, справа і зрушыцца з месца.

**Аддзел пісьмаў «ЛіМа».**

цяком успрымаюцца толькі як народнапсеенныя фальклорныя. А трэба ж у сферу нацыянальнага на роўных правах, даводзіў І. Лучанок, уключыць і прафесійную беларускую музыку мінулага. Мы ўсё ніяк не можам пазбавіцца шарахання ў крайнасці, прынцыпу «адзінай мадэлі» ў мастацтве. Ды мастацтва тым і адрозніваецца ад навукі і тэхнікі, што ў ім не павінна быць месца аднолькавасці, што ягоная годнасць — не ў захаванні «правілаў», а, хутчэй, у выключэннях з іх. Таму, разважаў дакладчык, досыць умоўны і такі агульнапрыняты тэзіс: мастацтва мае быць нацыянальнае па форме, інтэрнацыянальнае па змесце і агульначалавечае па духу. Не можа кожны твор і кожная творчая індывідуальнасць схіляцца да нацыянальнага, інтэрнацыянальнага і агульначалавечага ў роўнай меры! Ёсць кампазітары, якім бліжэй нацыянальная стыхія, іншыя паўней выяўляюць сябе ў агульначалавечай тэматыцы. У мастацтве павінна быць месца і для таго, і для другога. Галоўным крытэрыем ацэнкі павінен зрабіцца **талент.**

Затым І. Лучанок спыніўся на праблемах, якія ўзнікаюць галоўным чынам праз тое, што ў сферы культуры пануе славуты рэшткавы прынцып планавання. «Плённы ўплыў» гэтага прынцыпу адчувальны ў катастрафічна нізкім узроўні агульнай музычнай адукацыі — ці не таму сімфанічныя і камерныя канцэрты праходзяць у напаўпустых залах, ці не таму кіраўнікі розных рангаў вельмі і вельмі рэдка наведваюцца ў філармонію? Адчувальны ён і ў справе прапаганды музычнага мастацтва. Прынамсі, у дакладзе прагучала крытыка на адрас Міністэрства фінансаў БССР, якое тармозіць стварэнне ў рэспубліцы аддзялення «Цэнтрмузінформа» — арганізацыі, якая сур'ёзна і актыўна займалася б прапагандай беларускага музычнага мастацтва ў краіне і за мяжой.

**У ліку праблем — і адносіны музычных тэатраў да творчасці беларускіх кампазітараў. З трывогай і абурэннем гаварыў пра гэта І. Лучанок. У 1980 г. опера Д. Смольскага «Сівая легенда» (паводле У. Караткевіча) была адзначана Дзяржаўнай прэміяй БССР і... неўзабаве яе здымаюць з рэпертуару. Парадокс?! Опера Ю. Семянякі «Новая зямля» (паводле Я. Коласа) таксама вельмі нядоўга пратрымалася на сцэне ДАВТа. Кіраўніцтва рэспублікі робіць захады для развіцця мовы і культуры беларусаў. Але ДАВТ у той жа час здымае з рэпертуару балет Я. Глебава «Курган» (па матывах паэм Я. Купалы). Пад пагрозай зняцця балет Я. Глебава «Альпійская балада» і опера Г. Вагнера «Сцяжынаю жыцця» (абодва творы паводле прозы В. Быкава). А Дзяржаўны тэатр музычнай камедыі БССР на пачатку гэтага года зняў з рэпертуару гераічную музычную камедыю Р. Суруса «Судны час» (паводле «Трыбунала» А. Макаёнка) — спектакль, які атрымаў высокую ацэнку спецыялістаў, прызнаны адным з лепшых у рэпертуары!**

**Гэтыя факты І. Лучанок вызначыў як ЗЛАЧЫННУЮ БЕЗГАСПАДАРЧАСЦЬ, непавагу да нацыянальных набыткаў, элементарную абыякавасць да лёсу нацыянальнай культуры. У справе захавання яе дасягненняў пасіўную пазіцыю назіральнікаў занялі, на думку дакладчыка, кіруючыя органы культуры рэспублікі. Мы б'ём трывогу, гаварыў ён, звяртаемся да кіраўніцтва і патрабуем аднаўлення і захавання нацыянальных твораў на сцэнах музычных тэатраў. Нельга рабіць камерцыю за кошт нацыянальных опер, балетаў і аперэт, нельга пераводзіць усё на голы гасразлік. Патрабуем таксама аднаўлення ў рэпертуары найбольш удалых нацыянальных спектакляў мінулых часоў.**

**Не абмінуў І. Лучанок і такія застарэлыя праблемы, як пошук належнага памяшкання для Саюза кампазітараў, адкрыццё музычнага выдавецтва, якога дасюль не мае рэспубліка, стварэнне ў Беларусі неабходнай нам студыі грамзапісу.**

І ўсё ж, нягледзячы на праблемы, недахопы і цяжкасці, дасягненні ў беларускіх кампазітараў ёсць — многае прызнана ў рэспубліцы, а сёе-тое і за яе межамі. Прамоўца выказаў спадзяванне, што перабудова, якая пачалася ў краіне, не толькі дапаможа нашым кампазітарам больш крытычна ацаніць сваю творчасць, але і дасць новы штуршок мастакоўскім пошукам.

## ПРА НАБАЛЕЛАЕ — АДКРЫТА...

Абыякавых выступленняў пад час пленумаўскай дыскусіі не было. Але ўсё «друкануць», як газетчыкі кажуць, — не выпадае. Яно, можа, і да лепшага, бо стэнаграфічнае ўзнаўленне або проста пераказ асобных прамоў быў бы не на карысць іх шаноўным аўтарам, дый нашым чытачам. Значныя, правільныя, «навуковыя», кідкія, пры слыхавым успрыманні, выступленні часцяком абарочваюцца на паперы каструбаватымі канструкцыямі, няўцямнымі намёкамі, наборам гучных алагічных фраз і бляклых думак, нясвежымі артадаксальнымі высновамі.



Кампазітары В. ВОЙЦІК (злева) і К. ЦЕСАКОЎ гутараць з народным артыстам БССР В. РОЎДАМ (у цэнтры).

На фоне агульнай гаворкі грунтоўнасцю, цэласнасцю, яснасцю вылучылася выступленне музыказнаўцы Т. Шчарбаковай. Яна загаварыла пра тое, як абуджанае сёння пачуццё гісторыі выяўляецца ў творчасці, у музычна-грамадскім побыце. Канкрэтныя яго праявы радуюць разнастайнасцю і бянтэжаць супярэчнасцямі. Патрэба заглыбіцца ў нацыянальную гісторыю спараджае свежую оперу-фантасмагорыю У. Солтана «Дзікае паляванне караля Стаха», баладу «Заслаўская легенда» В. Помазава, кінамузыку У. Кандрусевіча, сімфонію «Полацкія пісьмёны» А. Мдзівані. Новымі парасткамі прабіваецца ў музычнай мове знаменны распеў, кант, інтанацыі з царкоўнага ўжытку — у творах Л. Шлег, А. Бандарэнкі, У. Дамарацкага... Ды побач з гэтым — набалелыя пытанні: ці выдадзены «Полацкі сшытак»? Ці складзены каталог помнікаў нашай музычнай гісторыі? Ці выдадзены п'есы А. Абрамовіча, архівы Нясвіжа, Заслаўя? Не...

З дзесяці сімфоній М. Аладава не выдадзена ніводная, з шасці Я. Цікоцкага — адна. Выдадзены толькі тры беларускія оперы і то дзякуючы намаганням саміх аўтараў, што жывуць сёння.

Такое становішча Т. Шчарбакова растлумачыла адсутнасцю грашовых сродкаў і неабходнасцю «хадзіць на паклон» ва ўсесаюзныя выдавецтвы. Да ўсяго ўзнікла ў СК БССР асаблівая атмасфера, калі кампазітары не заклапочаныя тым, што пісалі іхнія папярэднікі, адпіхваюць папярэднікаў плечуком, не разумеючы, што пры гэткім стане спраў не можа быць культурнага асяроддзя. Пачуццё гісторыі выяўляецца тут вельмі своеасабліва: «А нас выдаюць? А мы трапілі ў спіс?» Тым часам рукапісы 20—30-х гадоў страчваюцца, і ў краіне не ведаюць, што захоўваецца ў нашых архівах. Некалі, згадала Т. Шчарбакова, бібліятэкай беларускай кампазітарскай суполкі займаўся Ю. Дрэйзін — музыкант, гісторык, чалавек, які перакладаў Гамера, які з арыгіналаў рабіў пераклады на беларускую мову заходнееўрапейскіх і рускіх класічных опер. А сёння... Сёння, калі расфарміроўвалі архіў Міністэрства культуры БССР, дзе захоўваліся кампазітарскія рукапісы, не запрасілі ніводнага музыканта, і невядома, што засталося гісторыкам беларускай музыкі для іх будучай работы.

**Адсутнасць у Беларусі нотнага выдавецтва вымушае музыказнаўцаў працаваць з рукапіснай спадчынай. І адпаведных зводаў, даведкавых выданняў у нас няма. Толькі рукапісы — хісткі падмурак для аўтарытэту беларускага музыказнаўцы. Гаварыла Т. Шчарбакова і пра пачуццё гісторыі ў музыказнаўцаў. Трэба пазбавіцца ад дэфармацый навуковага мыслення. Выхаваныя паветрам культу асобы, нашы гісторыкі не развіталіся з думкай, што рухаемся мы ўвесь час да вяршыняў, што трэба адмаўляцца ад мінулага, а думку гэту яшчэ і вядомая песня падмацавала: «Живем мы весело сегодня, а завтра будет веселей».**

Неабгрунтаванасць пачуцця перавагі тых, хто жыве сёння, над тымі, хто быў раней, Т. Шчарбакова даводзіла на свежым прыкладзе. У пленумаўскіх канцэртах гучалі творы Я. Цікоцкага, П. Падкавырава — творы «старыя», але ж музыка — добрая! У параўнанні з ёю відаць, чаго бракуе многім штукарскім опусам нашых сучаснікаў, — прыроднай, натуральнай музыкальнасці...

Заклапочанасць выклікае ў Т. Шчарбаковай «сіндром прафесіяналізму». У асяроддзі, дзе драбнее маральны, духоўны змест асобы чалавека, які піша музыку і даследуе яе, дзе ўзнікае дэфіцыт таленту,— робіцца падмена. Гаворка аб прафесіяналізме сталася тыповаю для нашага саюза. Няма натуральнага таленту, але ёсць добра адладжаны тэхнічны апарат — і перад намі «прафесіянал». Старая хвароба! Ну хіба прыйдзе камусьці ў галаву ўхваляць Талстога за тое, што ён «добры прафесіянал», ці казаць: «Які добры прафесіянал Чайкоўскі!» Калі забываюць пра душу чалавека, гавораць пра тэхніку. Пачуўшы **музыку**, слухаючы **музыканта** — пра тэхніку забываешся...

●

Пачуццём гістарычнай памяці было прасякнута слова В. Войціка. Хоць я і не разумею добра, што гэта за этапы, на якія можна падзяліць беларускую музыку, гаварыў кампазітар, не магу не пагадзіцца — праблем у ёй багата. Ён выказаў незадаволенасць цяперашнімі падручнікамі гісторыі беларускай музыкі, прапанаваў абагульніць усе магчымыя звесткі, у тым ліку і раскіданыя ў польскіх і літоўскіх музыказнаўчых працах, і стварыць новы падручнік.

Спачуваю руху нацыянальнага адраджэння, разважаў В. Войцік. І мяне здзіўляе, што пісьменнікі і мастакі лічаць нас ці не здраднікамі ў гэтай справе. Беларуская музыка ж заўсёды была нацыянальнаю! Прамоўца згадаў адметную творчасць В. Залатарова, Я. Цікоцкага, М. Аладава, М. Чуркіна, А. Багатырова, У. Алоўнікава, пошукі В. Помазава, Л. Шлег, У. Кур'яна, А. Рашчынскага, В. Кузняцова, глыбока нацыянальныя, але выкрасленыя з тэатральнага жыцця балеты і оперы Я. Глебава, Д. Смольскага, Ю. Семянякі. Наша зброя — музыка. І няхай даруюць пісьменнікі і мастакі, але, калі кожны зоймецца сваёй справай, гэта дасць большы плён, чым удзел у мітынгах.

Коратка расказаўшы гісторыю свайго роду (бацькі яго з Гродзеншчыны), які зведаў на сабе, што такое нацыянальная пагарда, В. Войцік падкрэсліў: я супраць нацыяналізму, ад каго б ён ні зыходзіў. Але ў нашай свядомасці яшчэ жывы сталінізм, не заўсёды можам мы гаварыць адкрыта; горыч выклікаюць недавер і падазронасць у адносінах кіраўніцтва і грамадскіх аб'яднанняў. Чаго баяцца нашым кіраўнікам? — прадаўжаў ён. І, адказваючы на зададзенае самому сабе пытанне: «Чаго я чакаю ад перабудовы?»— сказаў: таго, што яна кожнаму з нас дапаможа, гаворачы словамі класіка, «па кроплі выцісну́ць з сябе раба».

●

**Розныя пытанні закраналі ўдзельнікі дыскусіі: груваcтная забюракрачаная структура кампазітарскага саюза; нездавальняючая падрыхтоўка маладога папаўнення для беларускай эстрады; кампазітарскі доўг перад выканаўцамі; этыка ўзаемаадносін паміж членамі саюза... Выступалі кампазітары Г. Вагнер, А. Елісеенкаў, П. Альхімовіч, Э. Ханок, Л. Шлег, дырыжор М. Фінберг, крытык А. Ладыгіна, музыказнавец Г. Глушчанка, а таксама госці з Масквы і Ташкента. Уражаннямі аб пленуме і меркаваннямі пра далейшае развіццё беларускага музычнага мастацтва падзяліўся намеснік міністра культуры БССР У. Рылатка.**

## ПРА БУДУЧАЕ — З НАДЗЕЯЙ

Можна, у залежнасці ад уласных эстэтычных уяўленняў, густу, па-рознаму ставіцца да тых ці іншых твораў з пленумаўскіх праграм. Не будзем зараз пра гэта. Што ёсць — тое і маем, а што маем — тое і адлюстроўвае праўдзівы партрэт беларускай музыкі. Люстраны ж адбітак — рэч упартая, гэта нават не фота: ніводнае рысачкі з яго не сцерці. Шчырыя старонкі новай, 8-й сімфоніі Ф. Пыталева, прысвечанай ахвярам сталінскіх рэпрэсій, рамансавая лірыка Р. Пукста, зіхоткі мажор Сімфаньеты М. Чуркіна, квартэты К. Цесакова... Што тут пералічваць — з многіх рысаў складаецца аблічча беларускай музыкі. А час дадае і дадае штрыхі да яе партрэта. З надзеяй прыглядаешся да іх: можа, нясуць яны новую адметнасць?

**Нечаканая і арганічная повязь «старога» і «новага» ўзнікала ў праграмах Акадэмічнага народнага аркестра БССР (дырыжоры М. Казінец, С. Саналоў), Хору Белтэлерадыё (кіраўнік В. Роўда), Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі (намаганнямі яго кіраўніка М. Фінберга ў эстрадным канцэрце побач з песнямі маладзейшых аўтараў загучалі мелодыі Н. Сакалоўскага, А. Багатырова, У. Алоўнікава, Ю. Семянякі, І. Любана, Г. Вагнера, Я. Глебава, Д. Смольскага).**

**Некалькі свежых штрыхоў — віяланчэльная балада Г. Гарэлавай, народна-аркестравыя п'есы В. Кузняцова і А. Рашчынскага, вакальныя цыклы А. Елісеенкава на вершы М. Цвятаевай, камерная музыка У. Кур'яна, С. Бельцюкова...**

Адзін канцэрт даў магчымасць крыху зазірнуць і ў заўтра: выконваліся вучэбныя опусы студэнтаў кансерваторыі, якія займаюцца ў А. Багатырова, Я. Глебава, Д. Смольскага, і навучэнак Сярэдняй спецыяльнай музычнай школы пры БДК (выкладчык П. Альхімовіч). Большасць опусаў мела строга акрэслены жанр і не вызначалася пэўнай мастацкай праграмай: квартэт, саната. Ды вось трэцякурснік М. Стома паказвае «Повязі» для дзвюх флейт (прысвячаецца Зянону Пазняку), студэнтка II курса Л. Сімаковіч — самабытны твор для флейты, голасу і скрыпкі, які назвала «З белага крыла», а жанр, нават з дапамогай музыказнаўцаў, так і не вызначыла.

Ды хіба сутнасць у жанры? Гучалі арыгінальныя (самастойна «з голасу знятыя») беларускія песні — ад «Купалінкі» да унікальнага плачу, выкананыя ў адпаведнай манеры, пранікнёна і з артыстызмам, самою аўтаркай. Спляталіся з папеўкамі флейты. Скрыжоўваліся ў дыялогу са скрыпкай. Не цыкл, не сюіта — драматургічная задума больш цэласная і нават з элементамі тэатралізацыі. Спакваля раскрываўся самабытны і трагічны вобраз (сялянская доля? народная душа? жаночы лёс?..). Узніклі раптам асацыяцыі з вобразамі Купалавых паэм, і падумалася, што можна і твор Л. Сімаковіч назваць лірыка - драматычнай паэмай.

Чаму сапраўднага эстэтычнага пачуцця не выклікалі творы іншых пачаткоўцаў? Відаць, не таму, што яны «заакадэмізаваліся» ці ў іх бракуе фантазіі. Справа, мусіць, у жыццёвым і душэўным вопыце, якога яшчэ нестае «маладзёнам» у адрозненне ад М. Стомы і Л. Сімаковіч, людзей самастойных, сталых.



Справы творчыя... Кампазітар Л. МУРАШКА і народны артыст БССР Г. ВАГНЕР.

Фота Ул. КРУКА.

Музычныя прагнозы — занятак марны. Але наўрад ці хто будзе адмаўляць, што абос гэтыя кампазітары прыходзяць у мастацтва са сваёй пазіцыяй, са сваім светапоглядам і характарам. Значыць, ёсць надзея і на большае.

**С. БЕРАСЦЕНЬ.**

*Паэзія*

**Таіса БОНДАР**



# З БОЛЕМ, З НАДЗЕЯЙ...

●

Суцешуся старым, старым, як час:
Яшчэ не пройдзен шлях, яшчэ не вечар...
І горка, роспачна ўздыхне ў адказ
Змрок, ад якога зябнуць, стынуць
плечы.

Геройства спрэчак, звады, мітусня,
Штодзённая, з нагоды й без нагоды, —
Няма адхлання, цішыні і ў снах:
Гучыць, гарчыць у кожным з іх нязгода.

Нязгода з часам: за каго ён, час,
Калі з такою злосцю тушыць мары?
Калі палюе на любога з нас,
Паспелага для славы і для кары?

Бізун і пернік... Ганьба і хлусня...
Усё як некалі — як толькі ўчора!
Няма адхлання, цішыні і ў снах:
Не знае гора — хто не чуе гора.

Не чуе з-за хлусні папер і слоў,
Якая студзіць лбы і нішчыць душы,
Бы ўжо няма ні песень, ні буслоў,
У памяці гадоў бяссіла-скрушных.

Бы ўжо ніхто не помніць крыкаў, слёз,
Крывавых струп'яў на грудзях пагоркаў,
Хоць што ні згадка — чыйсьці горкі лёс,
Хоць што ні лёс — патушаная зорка.

Суцешуся старым, старым, як час:
Яшчэ пасвеціць хоць крыху надзея...
І горка, роспачна ўздыхне ў адказ
Змрок, ад якога сэрца ледзянее.

●

Зграе на кастрах
Аслеплых вокнаў вечар,
Перш чым задзьме іх страх
Азызлаю цямрэчай.

Цямрэчай забыцця:
Навошта сытым памяць?
Чарговы дзень жыцця
У гонар Часу паляць.

А хто, тым больш — за што,
Няма чаго пытацца:
Не памінальны ж стол
Сабраў нас пасля працы.

Бяспамяцтва і страх
Балююць з нашай згоды.
І што ўжо згадваць шлях,
Пакутны лёс народа?

Свой стол, сваё акно,
Свой вечар — у любога...
Пагасне? Усё адно
Віна ўпадзе на Бога.

І мы... Мы — не рабы,
Як моўлена аднойчы:
Не затрашчаць ілбы
Ад гузакоў прарочых.

Што страх? Ён звыклы, страх.
Ён спадчынны. Спрадвечны.
І на яго кастрах
Зграе дзень штовечар.

●

Дарога. Суд над марай. Каліноўскі...
Спрабую дагукацца ў ноч: — Кас-ту-усь!
І змрок, цяжкі ад слёз і кропель воску,
Яшчэ шчыльней ухутвае бярозку,
Што вырасла са сноў пра Беларусь.

Збыліся сны. А кліч у змроку тоне,
Губляецца ў бярозавым лісці.
Я помню брата. І ніяк не ўспомню
Вачэй яго, цяпла яго далоні,
Усмешкі, слоў... Бліжэй не падысці!

Бліжэй не пусцяць. І мяне не пусцяць:
Сцяна гадоў — надзейная сцяна.
І мала ўмець сабе або камусьці
Давесці, што рака — не толькі вусце,
Што смерць за песню — красная цана.

Здаўна ў раку сцякаюцца крыніцы,
І нож крамсае хлебны каравай,
І песня гіне ў бліскаў навальніцы...
Збыліся сны. А што нам сёння сніцца?
Хто спраўдзіць нашы сны пра родны
край?

●

Шальмуем тых, хто гнаў на Калыму
Галодных нас на смерць, на выміранне,
Хто мучыў нас і здзекаваўся з мук,
Хто дзень і ноч расстрэльваў нас
старанна.

Дасюль не ціхнуць тыя стрэлы ў снах,
А з нашай жа, з маўклівай нашай згоды
Так разбуяўся, так разросся страх,
Што грамадой завёмся — не народам.

Ды не завёмся — сталі грамадой,
Прыняўшы абяцанкі за абновы...
Народ не зжыўся б з ганьбаю, з бядой—
Не адцураўся б спадчыннае мовы.

Народ бы не склінаў сваіх сыноў
За тое, што яны збудзілі мёртвых
І хочуць на абломках валуноў
Пазначыць лёс іх, шлях іх, часам сцёрты.

Сябе ж склінаем, а не іх, дзяцей,
Ахвяраў нашага неразумення...
Каго спытаць, калі, калі ўзрасце
У душах нашых прага ачышчэння?

Калі мы ўведаем, што мы — народ,
І не бяспамятны, і не бязродны?
Шальмуем тых, хто з нашых жыў нягод,
А самі множым гэтыя нягоды.

●

З болем, з надзеяй гукаю
Новаму, блізкаму дню:
— Не зачапі небакраем,
Хмаркай — гняздоўі агню!

Выбухнуць — хто разбярэцца,
Што і навошта паліць?
Колькі між нас пагарэльцаў!
Здумаеш — сэрца смыліць.

Кожнай навале — прастора,
Кожнай маланцы — жытло...
Столькі насеяна гора,
Ўзыдзе — заслоніць святло.

Што ж яго — сеяць штовесну,
Поле паліўшы агнём?
Што ж яго — выспеліць песняй,
Каб накарміць груганнё?

Не, хоць слабая надзея —
Не саступае бядзе,
Дый небакрай ужо рдзее
Там, дзе займаецца дзень.

З болем, з надзеяй гукаю
Гэтаму дню праз гады:
— Дай расквітнець майму краю,
Марам яго маладым!

# БЫЦЬ ЛІТАРАТУРНАМУ САДУ

**Выступленне пісьменнікаў і бардаў у мінулы аўторак ля помніка Максіму Горкаму ў Мінску было, можна сказаць, звычайнае. Свае творы чыталі А. Мікалайчанка і Я. Хвалей, песні выконвалі М. Кулінковіч і В. Шцеўскі. І ўсё ж сустрэча гэтая была не зусім звычайная. Яна паклала пачатак адной добрай справе. Міністэрства культуры БССР і дырэкцыя парку культуры і адпачынку імя М. Горкага выступілі з ініцыятывай стварэння ў згаданым парку Літаратурнага саду. Думку гэтую падтрымала Бюро прапаганды мастацкай літаратуры СП БССР, дапамагло правесці згаданую сустрэчу.**

**У далейшым мяркуецца ладзіць розныя мерапрыемствы па прапагандзе беларускай і братніх літаратур— па прыкладу Масквы і Ленінграда. У парку стануць пастаяннымі выступленні пісьменнікаў ля помніка М. Горкаму, тут будзе створана літаратурнае кафэ, у якім пісьменнікі сустрэнуцца са сваімі чытачамі, дзе пройдуць літаратурныя дыспуты, прэм'еры новых кніг.**

**У перспектыве—узвядзенне на месцы, дзе стаяў дом Якуба Коласа, макета будынка. Мяркуецца паставіць тут і спецыяльны мемарыяльны знак.**

**НАШ КАР.**

# КАНФЕРЭНЦЫЯ Ў РУНДАЛЕ

**Восень—традыцыйная пара навуковых канферэнцый і сустрэч, значэнне якіх часам выходзіць за межы падвядзення вынікаў штогадовай працы. Такой важнай падзеяй у культурным жыцці прыбалтыйскага рэгіёна—Эстоніі, Латвіі, Літвы, Беларусі — стала канферэнцыя, прысвечаная выстаўцы «Партрэт XVII ст. у Латвіі», што праходзіла з 13 па 15 кастрычніка ў Рундальскім палацы-музеі непадалёку ад Рыгі. На сустрэчу ў славутым палацы, пабудаваным Б. Растрэлі, сабраліся навукоўцы з Рыгі, Тарту, Мінска, Вільнюса, Каўнаса і Масквы, якія займаюцца вывучэннем партрэта ў выяўленчым і прыкладным мастацтве. Кола тэм, што былі ўзняты ў дакладах і дыскусіях, выйшла за рамкі пытання аб гісторыі партрэтнага жанру ў мастацтве Латвіі—абмяркоўваліся праблемы агульнага і спецыфічнага ў культурах прыбалтыйскага рэгіёна, характару праяўлення ў нацыянальных формах «вялікіх стыляў» еўрапейскага мастацтва і ролі ў гэтым замежных культурных цэнтраў. Паведамленні, прысвечаныя канкрэтным групам помнікаў, перамяжаліся дакладамі па агульных пытаннях філасофска-эстэтычнай праблематыкі.**

**Асноўны матэрыял, сабраны ў працэсе дзесяцігадовай працы па падрыхтоўцы выстаўкі, быў выкладзены яе ініцыятарам і арганізатарам Е. Ланцмане і дапоўнены экскурсам у тэму «марнасці жыцця» ў партрэце (Э. Гросмане, Рыга) і паведамленнем аб адлюстраванні чалавека на латышскіх кафлях (І. Осе, Рыга). Літоўскія навукоўцы М. Матушанайтэ (Каўнас), А. Бякшта і Гасюнас (Вільнюс) прадставілі ўвазе калег даклады аб партрэце ў скульптуры, графіцы і цікавыя дадзеныя рэстаўрацыі партрэтнага жывапісу XVII ст., нечаканы матэрыял «дароў караблекрушэнняў»— з гісторыі драўлянай карабельнай скульптуры—разглядаўся ў паведамленні Н. Райд (Тарту). Паралелі ў мастацтве суседніх народаў дапамаглі высвятліць даклады аб беларускім скульптурным надмагіллі і жывапісным партрэце, зробленыя супрацоўнікам Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР А. Ярашэвічам і аспірантам гэтага ж інстытута А. Хадыкам.**

**Дыскусія на канферэнцыі была выведзена ў сферу філасофскага асэнсавання праблематыкі дакладамі, прысвечанымі пытанням спецыфікі партрэта (Э. Клявінш, Рыга), уяўленням аб душы і целе ў заходняй культуры (А. Рубеніс, Рыга), фарміраванню новага вобраза чалавека ў пострэнесанснай культуры замежных славянскіх краін на прыкладзе двара Рудольфа Другога ў Празе (Л. Танаева, Масква). Своеасаблівым падвядзеннем вынікаў канферэнцыі і заклікам да пастаноўкі шырокіх мастацтвазнаўчых праблем прагучаў вялікі даклад «Аблічча чалавека ў XVII ст. як стылявая форма» дырэктара музея ў Рундале І. Ланцманіса. Рэфератыўны зборнік паведамленняў, зробленых на канферэнцыі, выйдзе ў свет у наступным годзе.**

**Удзельнікі сустрэчы атрымалі магчымасць пазнаёміцца са шматграннай працай супрацоўнікаў музея, вядучага цэнтра вывучэння латышскага мастацтва, дзе ажыццяўляецца збор, каталагізацыя і рэстаўрацыя твораў жывапісу, скульптуры, дэкаратыўна-прыкладных рамёстваў рэспублікі, абмяняцца вопытам, наладзіць узаемныя навуковыя сувязі.**

**Ю. ХАДЫКА.**

# АРЧЫБАЛ

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 8—9).**

На сярэдзіну паляны мядзведзь не пайшоў. Выскачыўшы з травы, ён спыніўся, як спатыкнуўшыся, пакруціў галавой у бакі — нюхаў паветра. Вецер хоць быў ад яго, але круціў, і мядзведзь мог пачуць пах жалеза — ствалоў ад ружжаў — і мог здагадацца, што яго чакае на выкашанай паляне. Прабегшы яшчэ якія тры дробныя крокі палянай, ён пачаў падымацца на заднія лапы. Прыемна было глядзець, як ён ціха і плаўна, што ўсё роўна пад музыку, адгінаецца ад зямлі, павярнуўшы галаву якраз у той бок, дзе быў Госць; як ён паволі пачаў разводзіць у бакі лапы, агаляючы грудзі, на якіх шырокім клінам быў відаць прыродны белы гальштук... Выпрастаўшыся, выцягнуўся ў струнку і стаяў — высокі, буры, стройны, замёр на міг, быў як вычасаны з вялікага каменя, які нялёгка знайсці. Замёр, застыў, падставіўшы белыя — гальштукам — грудзі адразу пад два жаканы Замежнага Госця, толькі кралася пад вільготным ранішнім ветрам яго цёмна-бурая поўсць: на галаве і на грудзях. Пасля, ступіўшы ўперад на паляну, аддаў адной лапай салют, вітаючы, як у цырку з арэны, Гаспадара і Замежнага Госця, і пайшоў, пружынячы на задніх лапах, не на Госця, як перш, а па крузе па паляне, махаючы лапамі — прыхінаў адну да грудзей — да белага гальштука, другую адкідваў набок навотліж, ківаючыся ў такт сваёй пружыністай хадзе — пайшоў у танец.

І калі ён на жоўта-зялёнай скошанай паляне пусціўся ўпрысядкі, Замежны Госць, падняўшы высака ўгару над галавой ружжо, кінуў яго вобземлю — яно глуха чмякнулася ў вільготны мох, — моцна і выразна плюнуў пад ногі, загаварыў, відаць, вылаяўся па-свойму, завярнуўся і пайшоў адзін у глыбіню яловага лесу, не глянуўшы нават на яго, Гаспадара...

У неба адразу ўзляцелі дзве чырвоныя ракеты...

Гаспадар ведаў, што на паляне быў стары цыркавы мядзведзь з манежа — ад Гаспадара гэта пабаяліся схаваць, — што круглая паляна здалася мядзведзю арэнай...

Не ведаў гэтага раней толькі Госць.

Замежны Госць быў разумны і быў вялікі дыпламат. Ні ў машыне, у якой ён вяртаўся ў горад разам з Гаспадаром, ні за сталом у палудзень ён не сказаў пра мядзведзя ні слова.

Не сказаў пра гэта і назаўтра на аэрадроме перад адлётам; нават выгляду не падаў, што было нешта такое...

Гаспадар таксама быў разумны і быў не горшы дыпламат. І ён не сказаў пра гэта ні слова: у вялікіх кіраўнікоў быў больш важны, дзяржаўны клопат. Толькі ў іх вачах увесь час гарэлі хітрыя агеньчыкі, нават на аэрадроме пры расстанні.

На аэрадроме яны моцна абняліся і пацалаваліся, як і пры сустрэчы.

А Арчыбала ў той жа дзень салдаты даставілі ў той жа машыне, запёршы ў тую ж клетку, назад у горад, у цырк ля ракі — у канюшню. Туды — адкуль і ўзялі. Салдаты — народ з дысцыплінай.

Назад у кузаве з імі ехаў і дагляддчык Дзімыч...

**4**

Апошнія два гады Арчыбал жыў у запаведніку, вялікім, на сотні гектараў лесу і балота. У лес на волю яго не пусцілі — «непрыстасаваны», хутка загіне.

Ён жыў у клетцы каля старожкі.

Мядзведзі, як і людзі, любяць курыць і любяць піць.

Рабочыя леспрамгаса, прыходзячы ў запаведнік у магазін, давалі Арчыбалу спачатку акуркі — ён жваў і папяросы, і махорку, — пасля хлеб, абліты вінам. Арчыбал хутка прывык да «чарніла» і пасля, калі рабочыя не давалі яму ў лапы бутэльку, ён ламаў клетку, праціўна скрыгаў зубамі, аж кроў ішла з рота, і роў немым голасам на ўвесь лес.

Рабочыя занадта часта давалі яму «чарніла», і ён піў яго з бутэлькі з рыльца, як і яны.

Праз два гады ён «схапіў» цыроз печані і «пасадзіў» сэрца, як гаварылі рабочыя.

Памёр ён на трэці год, раніцай у глухую восень.

Додніцай прайшоў снег і ляжаў белай рыхлай яшчэ паласой каля жалезнай рашоткі — у яго перад самым носам.

З рота ў Арчыбала пайшла гарачая, як вар, кроў — пырснула за металічную рашотку на волю, — ён убачыў ля сябе толькі чорна-чырвоны краёк шырокай белай лясной паляны.

Падумаў яшчэ, што зямля, засыпаная снегам, пахла мядзведзіцай...

P. S. Дакументальны кінафільм пра двух паляўнічых і Арчыбала загадалі змыць.

*Госці Мінска*

# Лявон Тарасевіч— мастак з Беласточчыны

У кастрычніку ў мінскім Палацы мастацтваў праходзіла выстаўка мастака з Беласточчыны Лявона Тарасевіча.

Мастак нарадзіўся ў 1957 годзе ў мястэчку Валівы. Вучыўся ў Мастацкай акадэміі ў Варшаве. Дыплом—у 1984 годзе. У тым жа годзе яго запрашаюць выставіць свае творы ў варшаўскай галерэі «Фоксаль». Гэта выставачная зала і адначасова інфармацыйны цэнтр сучаснага мастацтва. Прэстыж галерэі ў свеце вельмі высокі: «Калі іншы раз за мяжою я гавару, што я з Польшчы, дык яшчэ папытаюцца, дзе гэта. А калі «Я з Фоксаля» — ведаюць».

Потым Тарасевіч робіць у «Фоксале» выстаўку «Дыялог» (з правам запрасіць да ўдзелу ў ёй кожнага блізкага яму па духу мастака з-за мяжы). Потым ягоныя творы з поспехам экспанаваліся ў Італіі, Швецыі, Англіі, Злучаных Штатах. Сёння Лявон Тарасевіч адзін з самых вядомых мастакоў Польшчы. Хуткая кар'ера. Дык, можа, усяму прычына—шчаслівы выпадак на пачатку творчага шляху? Не. «Мастацтва—гэта не латарэя, гэта работа,—гаворыць Лявон.—Майму з'яўленню ў «Фоксале» папярэднічалі выстаўкі, якія я рабіў ў калідорах акадэміі».

На афішах уласных выставак і ў тэкстах каталогаў Л. Тарасевіч падкрэслівае — «беларус з Польшчы». Як ставяцца ў Польшчы да ягонай беларускасці?

«Новае пакаленне польскай інтэлігенцыі—нармальна. Аднак ёсць і закамплексаваныя людзі, прымітывісты. Заўсёды знойдзецца прымітывіст, які, пабачыўшы, напрыклад, чалавека з цёмнай скурай, скажа, што той брудны».

У адпаведнасці з традыцыямі нашага мастацтвазнаўства творы Л. Тарасевіча разглядаліся б як адзін з варыянтаў абстракцыянізму. Сам бы Лявон наўрад ці згадзіўся б з такім вызначэннем.

«Калі пытаюцца: «Вы мастак?», адказваю — «Часам бываю». Я лічу сябе пейзажыстам, калі ўвогуле трэба неяк сябе называць. Арыентацыя мастака на той ці на іншы кірунак мала пра што гаворыць. Хай сабе плаціў ён даніну модзе, густам свайго часу. Мода прайшла, а мастак застаўся.

Для майго мастацтва вызначальнае тое, што я з Беласточчыны. Вось пытаюцца, што я адчуваю, калі вяртаюся ў Валівы пасля Нью-Йорка? А Валівы становяцца мне яшчэ даражэйшыя. Тут пахаваны мой дзед, прадзед. Добра, што маю месца, куды можна вяртацца».

Пры гэтым Лявон не ідэалізуе свой край, шчыра гаворыць пра тое, што мастаку на Беласточчыне жыць цяжка. Часам працей знайсці агульную мову з варшаўскім культурным асяроддзем, чым са сваімі землякамі, суседзямі, чые інтарэсы абмежаваны ўласнай гаспадаркай. Краю не хапае культурных сіл, свядомай беларускай інтэлігенцыі. Адным і тым жа людзям даводзіцца займацца і музейнай справай, і беларускай прэсай, і рэстаўрацыяй помнікаў, і пытаннямі адукацыі. Не стаіць убаку ад грамадскіх спраў і Лявон (ці як яго клічуць сябры—Лёнік). «Лёнік — фірма, якая робіць усё», —гаворыць пра сябе Тарасевіч.

Гэта акалічнасць і чыста матэрыяльныя праблемы жыцця ў правінцыі адрываюць час ад творчасці. «Іншы раз пытаюцца, пры якім святле я працую, пры натуральным ці штучным. Працую, калі ёсць вольная гадзіна. Так што святло выбіраць не даводзіцца».

Пад час знаходжання ў Мінску Л. Тарасевіч сустракаўся з супрацоўнікамі рэдакцый часопіса «Мастацтва Беларусі», а таксама са старшынёй праўлення Саюза мастакоў Беларусі У. Стальмашонкам.

У гэтых размовах не абмінулі пытання аб крытэрыях нацыянальнага і сучаснага ў мастацтве.

«Калі сапраўдны мастак, дык нацыянальнасць відаць і без тэмы. Беларускасць Драздовіча ці Рушчыца ўжо ў самой пабудове палатна, у колернай гаме. Я не разумею, як беларускі мастак можа маляваць беларускі краявід, нібыта глядзіць на яго з высачэзнай гары. У нас такіх краявідаў проста быць не можа.

Паэзія Купалы беларуская зноў жа ў першую чаргу не тэмай і мовай, а сваім вобразным ладам, псіхалогіяй. Паляк ніколі не напіша «Я мужык, дурны мужык...», ніколі не прызнае сябе мужыком. Мастак становіцца нацыянальным, калі не можа быць іншым. Шагал да самага канца ў любым асяроддзі не мог быць іншым; Пікасо заўжды заставаўся іспанцам, Маціс—французам.

*Пошукі, знаходкі, версіі*

# ЦІ ДАЛЁКІЯ МЫ АД РАЗГАДКІ?

**23 верасня г. г. у «ЛіМе» быў надрукаваны артыкул гісторыка Г. Сагановіча «Найменне Бацькаўшчыны», дзе закраналіся некаторыя складаныя пытанні паходжання назвы Беларусі. У артыкуле, між іншым, выказваліся крытычныя заўвагі наконт версіі А. Рогалева, якую той выказаў раней у лімаўскім артыкуле «Ля вытокаў Белай Русі».**

**Шчыра кажучы, у планы рэдакцыі не ўваходзіць працяг дыскусіі па закранутых пытаннях. Аднак, улічваючы права аўтара адказваць на крытыку і палемізаваць, мы ўсё ж вырашылі змясціць ліст вучонага з Гомеля А. Рогалева з нязначнымі скарачэннямі.**

АДКУЛЬ пайшла Белая Русь? Дзе шукаць яе вытокі? Чаму ўсё ж такі Белая Русь — менавіта **Белая!** Дзе ж яна, разгадка?

«Калі браць пад увагу ўсе цяпер вядомыя факты, звязаныя з паходжаннем назвы «Белая Русь», дык лёгка пераканацца, наколькі далёкія мы ад той «разгадкі». З гэтага пачынае свой артыкул Г. Сагановіч. А каб упэўніць у гэтым самага, здавалася б, недаверлівага чытача, ён нагрувашчвае такі «калейдаскоп» фактаў, у якім тонуць усе магчымыя тэорыі.

Ці на самай справе мы такія далёкія ад разгадкі назвы?

Давайце звернемся зноў да геаграфічнага і адначасова этнічнага наймення **Беларусь.** Толькі давайце адразу дамовімся не гаварыць патрыятычных фраз там, дзе іх не трэба гаварыць. Зусім не павінна быць сорамна беларусам за паўведанне вытокаў сваёй этнічнай назвы. Што ж ганебнага ў тым, што беларускі народ мае такое старажытнае этнічнае найменне, вытокі якога не вельмі выразныя ў далечыні стагоддзяў? Гэта натуральная з'ява. Многія народы не ведаюць паходжання свайго наймення. Гэта датычыцца, дарэчы, і назвы **Русь, Расія,** аб сапраўдным спрадвечным значэнні якой вядуцца навуковыя (і ненавуковыя таксама!) спрэчкі ўжо амаль тры стагоддзі.

Даць адказ на пытанне, адкуль ідуць вытокі той ці іншай этнічнай назвы, цяжка таму, што адпаведнае слова, якое ўзнікае ў глыбокай старажытнасці, хутка ператвараецца ва ўмоўны знак, сімвал, што выкарыстоўваецца намі перш за ўсё дзеля арыентавання ў навакольным свеце.

Калі мы жадаем ведаць штонебудзь рэальнае, пазітыўнае і дакладнае аб назве Белая Русь на навуковым узроўні, дык трэба раз і назаўсёды зразумець: уся справа — у сімволіцы колеравага абазначэння, г. зн. у абстрактным, а не канкрэтным.

Сістэма колеравых сімвалаў уласціва большасці зямных моў. Пры гэтым менавіта тры колеры — **белы, чырвоны** і **чорны** — суадносяцца з трыма бакамі свету, служаць для прасторавай арыентацыі. Чаму так? Адказ павінны шукаць не толькі і не столькі лінгвісты, колькі нейрапсіхолагі, біёлагі. Белы колер у такім разуменні суадносіцца з захадам.

Г. Сагановіч слушна заўважае: «калі **белы** — гэта «заходні», то хто і чаму называў «белымі калмыкамі» продкаў сучасных алтайцаў; на захад ад каго жылі белакраінцы — этнічная група славенцаў...?» У гэтых і іншых прыкладах незразумела, ці звязана колеравае азначэнне толькі з прасторавай арыентацыяй, і ці не адлюстравалася тут якая-небудзь іншая сімволіка. Слова **белы** выкарыстоўвалася ў мінулым таксама ў якасці азначэння няхрышчаных плямён і народаў з боку «цывілізаваных» грэкаў. Такі сэнс, напрыклад, мае этнічнае найменне **белыя харваты** ў Канстанціна Багранароднага.

Калы мы бачым, што гэтае тлумачэнне, дарэчы, як і папярэдняе, не вельмі дастасуецца да Белай Русі, дык трэба не ламаць коп'і, а шукаць новыя факты, іншыя версіі. І яны ёсць, нават пры ўмове поўнага адказу ад паведамленняў «Кронікі» М. Стрыйкоўскага (згодна з заўвагай вядомага беларускага даследчыка М. М. Улашчыка, аб чым гаворыць і Г. Сагановіч).

Вось такі, напрыклад, факт, які падае аўтар артыкула «Найменне Бацькаўшчыны». У 1661 годзе пасол германскага імператара, «вуснамі якога гаварыў маскоўскі двор», называе Белай Руссю прасторы «паміж Прыпяццю, Дняпром і Дзвіною». Маскоўская дзяржава лічыла гэтыя землі сваімі. Нездарма германскі пасол запісаў: «Усё гэта калісьці належала па праву Рускім...» З-за адзначаных зямель, дарэчы, вяліся асабліва крывавыя войны паміж Літвой і Масковіяй у XVI стагоддзі. А калі гэта так, дык ці маглі маскоўскія дзяржаўцы назваць гэтую тэрыторыю як-небудзь інакш?

А вось яшчэ прыклад (таксама з артыкула Г. Сагановіча). У 1578 годзе А. Гвагніні, які служыў у Віцебску, а гэта значыць, у Літве, назваў Маскоўскую дзяржаву Чорнай Руссю. Ці не было ў гэтым абазначэнні нейкага своеасаблівага, няхай, можа быць, і нязначнага, прыніжэння вялікай дзяржавы, якая сама сябе, свае землі лічыла толькі Руссю Белай? Гэта неабходна прызнаць і з ім згадзіцца. Самыя надзейныя паведамленні адносна Белай Русі пачынаюцца з XV — XVII стагоддзяў. У пачатку XV стагоддзя прускія рыцары выкарыстоўвалі найменне Белая Русь у адносінах да Маскоўскай дзяржавы. Невыпадкова вялікі магістр Прусіі, які ў 1413 годзе паведамляў чэшскаму каралю аб хуткай вайне з Масковіяй, назваў гэтую краіну **Белай Руссю.**

Відаць, такое паведамленне, у якім адлюстравана афіцыйнае азначэнне Масковіі, трэба таксама ўспрымаць сур'ёзна.

А калі ўсё гэта так, калі ўлічыць, што найменне **Белая Русь** на ўсходнеславянскай тэрыторыі мела хутчэй за ўсё **палітычны** падтэкст-сімвал («цэнтральная, галоўная, самая значная зямля», «палітычны цэнтр»), дык чаму мы павінны не давяраць заснавальніку расійскай гістарычнай навукі В. Н. Тацішчаву, у распараджэнні якога (гэта добра вядома!) былі такія матэрыялы (хронікі і летапісы), аб якіх мы можам толькі марыць. Навошта навешваць на выдатнага айчыннага гісторыка нічым не абгрунтаваны ярлык прыхільніка наўмыснага размяшчэння Белай Русі ў межах Маскоўскай дзяржавы? Чаму менавіта да яго паведамленняў мы павінны адносіцца негатыўна, а да іншых пазітыўна?

Нават калі і згадзіцца з тым, што першыя расійскія гісторыкі наўмысна падкрэслівалі лакалізацыю Белай Русі перш за ўсё на гістарычных землях Маскоўскага княства, гэта не мяняе сутнасці справы. Масковія XV і XVI стагоддзяў лічылася Белай Руссю. Так патрабаваў час. І нічога дзіўнага, тым больш дрэннага, антыгістарычнага ў гэтым няма. Назва-сімвал з палітыка-геаграфічным асэнсаваннем была ў той час вельмі патрэбнай мацнеючай дзяржаве. Мінуў час, і неабходнасць у штучным падкрэсліванні сваёй значнасці адпала. Расія стала Вялікай на справе, а не толькі ў назве. А назва **Белая Русь,** страціўшы свой палітычны сэнс, канчаткова вярнулася туды, адкуль, відаць, пачынала свой шлях. Адбылося гэта ў канцы XVIII і ў XIX стагоддзях.

Першае геаграфічнае апісанне беларускага краю, зробленае рускімі даследчыкамі, адносіцца да 1788 —-1789 гадоў. Яно было зроблена пасля далучэння ў 1772 годзе ўсходняй часткі Беларусі (прыкладна да Мінска) да Расійскай дзяржавы. Маецца на ўвазе цудоўны, унікальны «Новый и полный географический словарь Российского государства, или Лексикон...» Л. М. Максімовіча. У ім Беларуссю называюцца вобласці ад вярхоўяў Дняпра і па заходняй частцы Дзвіны -- Смаленскае, Мсціслаўскае, Віцебскае і Полацкае княствы з іх паветамі.

Параўнайце гэтую лакалізацыю з вядомым запісам ад 1635 года, зробленым магілёўскім біскупам П. Магілай. Згодна з запісам «беларускія краі» — гэта тыя, што належаць да епіскапіі Мсціслаўскай, Аршанскай і Магілёўскай». Параўнайце і з іншымі звесткамі. У 1772 годзе цікавае выданне «Starożytna Polska» паведамляе: «Ваяводствы Полацкае, Віцебскае, Мсціслаўскае і частка Мінскага называюцца Беларусіяй». У 1766 годзе «Географический словарь» М. Карпінскага адзначае: «Белая Русь заключает воеводства Мстиславское, Полоцкое, Витебское и Смоленское». І. Зяленскі ў «Материалах для географии и статистики России. Минская губерния», аналізуючы думкі розных даследчыкаў, заключае: **«Настоящая Белоруссия** (!) простиралсь в прежние времена с севера на юг от г. Дриссы и оз. Освея до Могилева и Друцка, а с востока на запад от Великих Лук и от р. Ловати до м. Белого, на границе Виленской и Минской губерний (Борисовский уезд), т. е. Белоруссией называлась вначале страна между Двиною, Днепром и Друтью».

Ці не дастаткова гэтых прыкладаў, каб нарэшце ўпэўніцца ў аб'ектыўнасці шматлікіх аўтараў-даследчыкаў XVII і XIX стагоддзяў?

Цяпер аб той «фантазіі», якой, на думку Г. Сагановіча, з'яўляецца спроба аўтара гэтых радкоў давесці, што ўжо ў X стагоддзі Полацкая зямля імкнулася замацаваць за сабой назву **Белая Русь.**

Уладзіміра-суздальскі князь Андрэй Багалюбскі яшчэ ў 1157 годзе ўзяў сабе тытул князя «Белай Русі». У той момант ён задумвае ўзяць уладу і над Кіевам, а гэта значыць, і над усёй Руссю. Такім чынам, тытул князя Белай Русі ўжо ў старажытнарускі час каштаваў вельмі многа!

Калі аўтар гэтых радкоў рыхтаваў свой артыкул «Ля вытокаў Белай Русі», яму не быў вядомы наступны факт. У 70-я гады XIX стагоддзя на Полаччыне было запісана паданне, у якім апавядалася, як князь Рагвалод накіраваў свае дружыны ўніз па Дняпры, дайшоў да сутокаў Дняпра і Прыпяці і паслаў уверх па гэтай рацэ свайго ваяводу князя Тура з моцным узброеным атрадам. А вось на гомельскім Палессі дагэтуль існуюць легенды аб першым тураўскім князі — Туру. Легенды, вядома, ёсць легенды. Не ўсё у іх рэальнае. Аднак ужо сам факт іх існавання вельмі красамоўны.

На самай справе, што мы ведаем пра пачатковыя старонкі палітычнай гісторыі Полацкай зямлі? Акрамя паўлегендарных паведамленняў «Повести временных лет» — амаль нічога. Мы амаль нічога не ведаем і пра палітыку Рагвалода полацкага. Але адно несумненна: ён імкнуўся да стварэння моцнай дзяржавы, прэтэндаваў на ролю палітычнага лідэра, таму зусім не фантастычным з'яўляецца меркаванне аб тым, што найменне Белая Русь у значэнні «цэнтральная (у геаграфічным сэнсе), важная, самая галоўная, найбольш значная (у палітычным сэнсе) зямля» прымервалася для Полацкага княства і ў X і ў XI стагоддзях, у час праўлення князёў Ізяслава, Брачыслава і асабліва Усяслава. Інакш як зразумець, што назва Белая Русь, страціўшы палітычныя адценні, вярнулася ў кан-

Трэба і мастацкае асэнсаванне гісторыі. Тым больш, што беларусы ў гэтай справе ў параўнанні з суседзямі «затрымаліся на старце». Але асабіста для мяне яшчэ і яшчэ адзін партрэт Каліноўскага мала што ці нічога не дадае да ўражання ад яго вядомай фатаграфіі; яшчэ адзін партрэт Скарыны— да яго гравіраванай выявы. Патрэбны іншы шлях. Трэба дыхаць паветрам сучаснасці, інакш мы ўвесь час будзем адставаць».

У БССР Лявон прыязджае другі раз, з выстаўкай першы. Пра магчымасць пашырэння кантактаў мастакоў Беларусі і Польшчы ішла размова ў Саюзе мастакоў. Тарасевіч лічыць, што выстаўкі «Нямігі, 17» ці шасці мастакоў у зале на праспекце Машэрава ў Польшчу можна везці хоць зараз.

Экспазіцыя твораў Лявона Тарасевіча дала нам магчымасць убачыць у новым ракурсе і нашы ўнутраныя праблемы. Гэта яшчэ адно сведчанне таго, што не варта супрацьстаўляць «нацыянальнае» і «сучаснае», «беларускасць» і «авангард». Адно другому не перашкаджае...

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ.**

цы XVII, у XVIII і XIX стагоддзях на былую тэрыторыю старажытнай Полацкай зямлі?

Цяпер ніхто сур'ёзна не глядзіць на дзікую думку, згодна з якой назва **Беларусь** — «выдумка цара Аляксея Міхайлавіча». Навошта ўвогуле ўваскрасаць перакрэсленыя гісторыяй выдумкі. Ці не хопіць таўчы ваду ў ступе? Дзеля чаго заклікаць навукоўцаў ствараць нейкую новую, «зграбную» (?), «няхібную канцэпцыю»? Тыражаваць пры жаданні і ўменні чарговыя версіі няцяжка. Аднак больш плённым было б зусім іншае: не адмаўляцца ад ужо створанага, не «ставіць яго пад сумненне», а знайсці ў ім рацыянальны, разумны сэнс.

На сённяшні дзень мы маем тры рэальныя напрамкі для гэтага. Першы — тое, аб чым гаварылася вышэй, калі назва-сімвал **Белая Русь** разумеецца ў палітычным і геаграфічным значэнні. Другі — назва **Белая Русь** сімвалізавала «белыя», г. зн. няхрышчаныя землі. Нарэшце, трэцяя версія: **Белая Русь** — «заходняя» Русь. Не такі ўжо ён неперспектыўны, гэты напрамак, калі ўлічыць, што сярод тых народаў, з якімі сутыкалася і мела адносіны Старажытная Русь, найбольш паслядоўнымі носьбітамі менавіта прасторавай сімволікі колеравых абазначэнняў былі цюркскія народы. Трэба сур'ёзна прааналізаваць магчымасць замацавання за Полацкім краем наймення **Белая Русь** у час мангола-татарскага нападу ў XIII стагоддзі і ў наступныя дзесяцігоддзі, калі Полацкі край быў менавіта той недасягальнай для качэўнікаў, апошняй зямлёй русаў, якая ляжала на захадзе. Пры гэтым паўднёвыя рускія землі (Галіцыя, Падолія, Валынь) разумеліся як **Чырвоная Русь,** а самыя паўночныя (Наўгародчына) — як **Русь Чорная.** У далейшым гэтае магчымае разуменне Белай Русі як «заходняй» пачало ўзаемадзейнічаць з іншымі сімвалічнымі адценнямі назвы, што і прывяло ў выніку да той блытаніны, якая ў сваю чаргу нарадзіла шмат версій і тлумачэнняў.

Аднак як бы там ні было, мы не такія далёкія ад разгадкі. Яна амаль у нашых руках. І не трэба саромецца таго, што разгадка зацягнулася амаль на тры стагоддзі. Наадварот, трэба ганарыцца той роляю, якую адыгрывала ў гісторыі адна з самых старажытных назваў Усходняй Еўропы, трэба ганарыцца тым, што яе носіць цяпер беларускі народ.

**Аляксандр РОГАЛЕЎ,**
**тапаніміст, правадзейны член Геаграфічнага таварыства СССР, супрацоўнік Гомельскага дзяржаўнага універсітэта.**



# ВАЧЫМА І СЭРЦАМ ДРУГА

**Стэфану ПАПТОНЕВУ— 60 гадоў**

Упершыню ў Беларусь Стэфан Паптонеў прыехаў у марозны зімовы дзень, пад самы Новы, 1966 год. Тады часта так бывала (ды і цяпер здараецца): у апошнія дні года высвятляецца, што застаюцца грошы і нявыкарыстаны ліміт на міжнародныя сувязі, і вось — шукаюць, хто жадае паехаць... На гэты раз у Саюзе балгарскіх пісьменнікаў угаварылі Стэфана Паптонева, тады яшчэ параўнаўча маладога, які толькі адзін раз раней быў у СССР— на Маскоўскім сусветным фестывалі моладзі і студэнтаў у 1957 годзе. Выправілі яго ў Мінск, ён прыехаў, пасяліўся ў гасцініцы «Юбілейная»... Выйшаў на вуліцу, мароз за трыццаць градусаў, шапкі няма — ніхто ж не папярэдзіў. Але навошта маладому, вядома, самаўпэўненаму пісьменніку шапка? Ідзе Стэфан па Паркавай магістралі, і раптам чуе за спіной свісток. Азірнуўся — міліцыянер. «Чаму без шапкі, таварыш?» Тады Стэфан яшчэ амаль не гаварыў па-руску, але неяк растлумачыў усё міліцыянеру. «Пайшлі за мной!» — пачулася каманда. Міліцыянер завёў Паптонева ў ГУМ і прымусіў купіць зімовую шапку-вушанку...

Шапка ёсць, вушы не мерзнуць, але што рабіць далей? Нікога Стэфан у Мінску не ведаў. Саюз пісьменнікаў маўчыць, зачынены — 31 снежня. Успомніў тады Стэфан, што Георгій Вылчаў даў яму тэлефон аднаго пачынаючага тады мінскага балгарыста. Так літаральна за некалькі гадзін да сустрэчы Новага года пачуў я тэлефонны званок, і адбылася размова, першая, якую мы потым часта прыгадвалі.

Сустракаючы тады ў кватэры майго бацькі той Новы год, Стэфан Паптонеў, вядома, і не думаў, што лёс яго цяпер назаўжды будзе звязаны з гэтым горадам, з Беларуссю, з яе народам, што ён потым напіша тры натхнёныя кнігі пра нашу рэспубліку — кнігу мастацкай публіцыстыкі «Беларусь — белая балада», зборнік вершаў «Бярозы, я ў палоне ў вас» і паэму «Беларуская восень». А на адной з традыцыйных сустрэч балгарскіх пісьменнікаў з кіраўнікамі кампартыі і ўрада Балгарыі першы сакратар ЦК БКП Тодар Жыўкаў назаве гэтыя кнігі «аднымі з самых лепшых, напісаных у Балгарыі пра вялікі Савецкі Саюз».

Балгарскаму чытачу Стэфан Паптонеў вядомы таксама і як празаік, і як паэт. Прататыпы яго апавяданняў, аповесцяў і раманаў жывуць на поўначы Балгарыі — у Добруджы, ад Тырнава да Сілістры. Пісьменнік, пільна ўзіраючыся ў сучаснае жыццё, умее прадбачыць і адлюстраваць нявыдуманыя канфлікты. Так, напрыклад, вострая аповесць «Спачатку быў хлеб» была напісана напярэдадні тых перамен у жыцці грамадства, якія адбыліся ў Балгарыі і ў нас. Узнятая ў творы праблема спалучэння ў будзённым жыцці асабістага і грамадскага вельмі актуальная і сёння, пасля партыйных канферэнцый і ў нас, і ў Балгарыі. Беларускі чытач можа азнаёміцца з гэтай аповесцю ў зборніку «Такая любоў», што выйшаў нядаўна ў выдавецтве «Мастацкая літаратура». Як паэт С. Паптонеў—тыповы прадстаўнік «красавіцкага» пакалення, як яго называюць у Балгарыі. Ён прыйшоў у паэзію ў сярэдзіне 50-х гадоў разам з У. Башавым, Л. Леўчавым, А. Германавым і іншымі арыгінальнымі паэтамі, якіх вызначала неадольная прага праўды, глыбокага аналітычнага роздуму над тым, што адбывалася раней на роднай зямлі і што адбываецца цяпер.

У сваіх публіцыстычных кнігах, напісаных у апошнія дзесяцігоддзе ў выніку паездак у розныя краіны, С. Паптонеў абавязкова вяртаецца да беларускай тэмы, успамінаючы Беларусь і тое, што ён убачыў у нас. «Беларусія» старонкі з усхваляванымі ўспамінамі — у яго кнігах «Адлеглсці», «Мяне абудзіць світанне», «Сібірскі сшытак», «Кап'ё» і іншых. А зусім нядаўна ў часопісе «Септемврн» («Верасень») з'явіліся новыя раздзелы—своеасаблівы працяг кнігі «Беларусь—белая балада». С. Паптонеў плённа працягвае і перакладчыцкую дзейнасць, прапагандуючы лепшыя творы нашай літаратуры ў сваёй краіне.

Віншуючы сябра з юбілеем, пажадаем яму добрага здароўя і далейшых поспехаў у адказнай высакароднай справе.

**Ванкарэм НІКІФАРОВІЧ.**

# СЛОВА БАЦЬКАЎШЧЫНЫ РОДНАЙ

**Наватары і перадавікі вытворчасці Мінскага станкабудаўнічага завода імя С. М. Кірава прынялі ўдзел у вусным літаратурным часопісе, прысвечаным 70-годдзю ўтварэння БССР і Кампартыі Беларусі. Ён быў арганізаваны таварыствам аматараў кнігі Ленінскага раёна сталіцы рэспублікі, пярвічнай арганізацыяй кнігалюбаў і бібліятэкай прафкома прадпрыемства.**

**«Адкуль ёсць, пайшла зямля беларуская?» — гэтай тэме прысвяціў выступленне Л. Дайнека. З цікавасцю слухалі прысутныя расказ пісьменніка аб тым, як ён працаваў над сваім гістарычным раманам «След ваўкалака», прысвечаным падзеям далёкай мінуўшчыны — бітве на Нямізе трэцяга сакавіка 1067 года, калі полацкі князь Усяслаў быў разбіты і захоплены ў палон кіеўскімі князямі братамі Яраславічамі, а яшчэ праз год абвешчаны вялікім князем Кіеўскім.**

**Намеснік галоўнага рэдактара па рэкламе выдавецтва «Мастацкая літаратура» В. Шыханцоў гаварыў пра дружбу братніх народаў — рускага і беларускага, якая вытокамі сваімі карэніцца ў сівой старажытнасці, у Кіеўскай Русі. Гэтай дружбе і прысвечаны своеасаблівы паэтычны двухтомнік, які В. Шыханцоў прадставіў прысутным, — «Спеў пра Расію» (вершы беларускіх савецкіх паэтаў) і «Песнь о Беларуси» (вершы рускіх савецкіх паэтаў).**

**Прыязна сустрэлі ўдзельнікі часопіса выступленні С. Законнікава, які прачытаў вершы вядомага ўкраінскага паэта Р. Лубкіўскага ў сваім перакладзе, і Г. Пашкова.**

**На заканчэнне вечара самадзейны спявак І. Дабравольскі выканаў некалькі беларускіх балад.**

**НАШ КАР.**

*Наш каляндар*

# Багацце народа

Спаўняецца сто дзесяць гадоў з дня нараджэння прафесара У. І. Пічэты, першага рэктара Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Адной з галоўных заслуг вядомага вучонага з'яўляецца тое, што са стварэннем у 1921 годзе ў Мінску універсітэта пачалося навуковае вывучэнне нашай гісторыі, мовы і культуры. У 1923 годзе, як прадстаўнік маладой беларускай навукі, У. Пічэта пабываў у некалькіх краінах: Германіі, Чэхаславакіі, Польшчы і Літве. У тым жа годзе ён напісаў працу «Беларуская мова як фактар нацыянальна-культурны», дзе ў кароткай форме выкладзена гісторыя Белай Русі, а таксама з'яўленне і развіццё самастойнай славянскай мовы — беларускай.

Сустракаючыся з многімі еўрапейскімі вучонымі, У. Пічэта адзначыў іх нежаданне прызнаць само існаванне беларускай мовы і культуры. У сваіх поглядах яны абапіраліся на высновы вучоных царскай Расіі, большасць з якіх сцвярджала, што беларусы не маюць і не могуць мець уласнай культуры, а іх мова з'яўляецца толькі «искаженным русским наречием». Для савецкіх і замежных вучоных, а ў першую чаргу для нашай маладой інтэлігенцыі, паўстала задача знайсці сур'ёзныя навуковыя аргументы ў доказ таго, што беларускі народ мае не толькі ўласную мову, але і старую, тысячагадовую гісторыю, самабытную культуру.

Разглядаючы ў кнізе «Беларуская мова як фактар нацыянальна-культурны» асноўныя перыяды гісторыі нашай бацькаўшчыны, аўтар сцвярджаў: сярэднявечча было для беларусаў даволі спрыяльным у сэнсе павышэння моўнай культуры. Аб'яднанне ў адну дзяржаву з Літвою яшчэ больш пашырыла сферу ўжывання нашай мовы, яна стала агульнадзяржаўнай, бо ў тыя гады Беларусь у культурных адносінах стаяла намнога вышэй суседзяў. Але ўжо ў XVII стагоддзі на духоўнае жыццё народаў Вялікага княства Літоўскага немінуча пачала насоўвацца паланізацыя. Разам з тым нашы гарады, якія мелі ў тыя часы Магдэбургскае права, узмацняліся эканамічна, расла іх і культура. Адукаваныя гараджане не адракаліся роднага, адчувалі пагрозу апалячвання.

Яскравым прыкладам гэтага — кнігавыдавецкая і асветніцкая дзейнасць Францішка Скарыны. У. Пічэта залічае сярэднявяковых беларускіх асветнікаў да «буржуазнай інтэлігенцыі», якая праз друкаванае слова несла гуманістычныя ідэі. Зразумела, тых, каго вучоны назваў «буржуазнымі інтэлігентамі», было няшмат, іх дзейнасцю хутчэй кіраваў гандаль, чым высокія ідэі. Аднак значэнне выдання кніг на роднай мове цяжка пераацаніць. І ўсё ж патрыятычны рух не знайшоў моцнай падтрымкі ў шматнацыянальных гарадах. Захавальнікамі мовы, нацыянальнага духу сталі сяляне, якія па сваёй псіхалогіі з недаверам адносіліся да ўсяго новага, прышлага, імкнуліся жыць і гаварыць так, як жылі і размаўлялі дзяды і прадзеды. Лацінская мова, на якой вялася святая служба ў касцёлах, была незразумелая для простага сялянства, і яна, і каталіцкая вера выклікалі сумненні ў людскіх душах. Таму менавіта сялянства, пісаў Пічэта, было галоўным «носьбітам жывой беларускай мовы, як нацыянальна-культурнага фактара».

Цікавыя развагі вучонага пра ролю уніяцкай царквы ў гісторыі і культуры Беларусі. Ён называе яе «царквою халопства» і адзначае ў яе дзейнасці пэўныя станоўчыя рысы. Напрыклад, што і ў гады засілля каталіцызму, і ў перыяд русіфікацыі гэтая царква адстойвала права на існаванне нашай мовы, на існаванне самой беларускай нацыі.

Вельмі розніцца ад агульнапрынятых ацэнак погляд вучонага на далучэнне беларускіх зямель да Расійскай Імперыі. Ён называе гэты факт «адмоўным фактарам» для беларускай мовы і літаратуры.

Вядома, гістарычныя працэсы аб'ектыўныя, наш народ не мог не аб'яднацца з рускім народам, але разам з тым нельга забываць, што беларусы стагоддзі жылі ў адной федэратыўнай дзяржаве з палякамі, і гэта наклала свой значны адбітак на нашу гісторыю і культуру. Навязанае паўсюдна сілком усё рускае, як падкрэслівае У. Пічэта, вяло да забыцця ўсяго роднага, нацыянальнага. Афіцыйная думка пра тое, што беларускага пытання не існуе, датравала да 20-х гадоў нашага стагоддзя. З узнікненнем БССР шпарка пайшла справа беларусізацыі, «забраны край» вяртаўся яго законнаму ўладальніку. У гэты перыяд У. Пічэта быў упэўнены, што цяпер усе запруды на шляху развіцця нашай нацыі знішчаны. Але напярэдадзе шчырых працаўнікоў на роднай ніве чакалі жудасныя трыццатыя гады...

Сёння можна смела сцвярджаць, што невялікая кніжка Уладзіміра Іванавіча Пічэты «Беларуская мова як фактар нацыянальна-культурны», выдадзеная ў 1924 годзе, прайшла выпрабаванне часам, яна не згубіла сваёй каштоўнасці і цяпер, у эпоху галоснасці і перабудовы. Будзем спадзявацца: напісаная бліскуча і цікава, перасыпаная мноствам запамінальных фактаў, гэтая праца неўзабаве будзе перавыдадзена і знойдзе свайго новага ўдзячнага чытача.

**Георгій ВАЛАСЕВІЧ.**

## Музам на пацеху

**Марат БАСКІН**

# Талерка з «Огоньком»

Дырэктар фабрыкі посуду Лявон Дурэйка не вельмі мяне жалаваў пасля фельетона пра яго талеркі, а тут сам мяне перапыніў:

— Глядзі, якая чарга ля магазіна! Мае талеркі даюць!

І, сапраўды, чарга каля гаспадарчага магазіна была падобна на чаргу ля віннага: яна змяёй вілася ўздоўж вуліцы.

— Мае! — ганарліва паўтарыў Дурэйка. — Ідуць лепей за імпартныя!!!

— З замежнай фірмай аб'ядналіся? — асцярожна выказаў я здагадку.

— Ды не, — хмыкнуў Лявон. — Самі з вусамі! Перабудаваліся! Наш набор з двухсот талерак пабіў усе рэкорды: бяруць у неабмежаванай колькасці, толькі давай!

— З двухсот?! — падзівіўся я. — І каму гэта, цікава, такая колькасць патрэбна?

— Усім,—зарагатаў Лявон.

— А меншы набор не маглі зрабіць? — перапытаў я, не ведаючы, што сказаць, бо з магазіна і сапраўды пёрлі вялізныя клункі.

— Меншы не маглі,— пахітаў адмоўна галавой Лявон. — Вельмі вялікі твор.

— Мастака новага ўзялі, — перадыхнуў я, спрабуючы ўцяміць, з чаго гэткі ўзлёт фабрыкі. Мне вельмі закарцела зірнуць на гэтыя цуда-талеркі.

— Навошта нам мастак,— махнуў рукой Дурэйка. — Галоўнае ў талерках змест! — зусім для мяне незразумела дадаў ён...

Праз момант я трымаў у руцэ дэфіцытную талерку: на ёй не было аніякага малюнка, замест гэтага яна была густа ўсеяна літарамі.

— Усёк? — спытаў Лявон, з асалодай назіраючы, як я пакручваю талерку ў руках.

— Пакуль што не, — пацiснуў я плячыма.

— Дык гэта ж «Трыумф і трагедыя»! Пра Сталіна! Увесь надрукаваны на талерках! У нас жа зараз дэфіцыт з паперай! А ў мяне з талеркамі наадварот! Вось і даю народу твор! Раней чым у часопісе! Набор вялікі атрымаўся, але ж і твор дай бог які! Не падпісацца на часопісы, а мне ж з таго карысць! На падрыхтоўцы набор «Выбраныя старонкі з «Огонька»! У «Дружбе народов» працяг «Детей Арбата» — і ў мяне вось-вось на сто адной талерцы! — ён па-змоўніцку падміргнуў мне і дадаў. — У «Юности» абяцаюць твор пра Берыю, і ў мяне ўжо на падыходзе: праўда, талеркі з браку, але галоўнае ж не гэта ў іх! Дык што? Патрэбны табе гэтыя талеркі?

— Патрэбны! — выдыхнуў я і кінуўся да натоўпу. Займаць чаргу.

**Валянцін ТАРАС**

## КПІНЫ

### ПАПЯРЭДНІК

Адзін заўзяты прапаведнік
крычыць, узышоўшы на
амбон,
што самы першы
папярэднік
перабудовы — гэта ён.
Што быў ён да перабудовы
калодзежам яе задум...
У самога ж брэжнеўскія
бровы
і змрочны суслаўскі касцюм.

### БАРАДУЛІН У НЬЮ-ЙОРКУ

Нью-Йорк з рання пачынае
ішачыць,
гне за далары спіну да
вечара.
Там я зразумеў, што
Нью-Йорк не Ушачы
і Гудзон — не возера
Вечалле.
Брадвей цыгару рэкламы
смаліць.
Мяне убачыўшы, не
расчуліцца,
*не плясне ў ладкі: «Кулінін
малец!»*
Дурная вуліца.

### ПРЫНЦЫП

Не цярплю Шагала Марка!
Марк *Шагал — не наша*
марка.
Што ён маляваў, Шагал?
Сінагогу і кагал.
*Не мастак ён быў, а рэбэ:*
з праваслаўнай веры кпіць.
У яго ў блакіце неба,
як анёл, яўрэй ляціць.
*Мне шагалаўскае неба*
не па густу і не ў смак.
Хто сказаў, што лётаць
трэба,
*а не поўзаць, як* чарвяк?

### ЭПІГОН

Няблага піша пад Брыля,
ды і пад Чорнага няблага.
Усё жыццё з-пад іх брыля
сябе не бачыць, бедалага!

### ПАДАБЕНСТВА, З ЛЕРМАНТАВЫМ

Нагадаў адзін з паэтаў
слаўнага гусара.
Не хапае эпалетаў,
а таксама дара.

### ПАСТАЯННАМУ АЎТАРУ БЮРО ПРАПАГАНДЫ ЛІТАРАТУРЫ

Зацяты дабрадзей бюро
*не спадзяецца на* ляро.
Ствараць — патрэбны
талент, праца.
Ён можа толькі
«пабюрацца».

### САБЕ

Пад сябе падводжу міну
кожнай кпінаю сваёй.
Хто ж табе даруе кпіну,
хто ж узрадуецца ёй?
Ды жыццё без вострай кпіны
зарастае цвіллю ціны,
кпіны — ворагі руціны, —
як без кпінаў весці бой?
*Хай дасціпнай і дакладнай*
кпінай джаляць і мяне.
Не баюся кпіны жаднай —
на вайне як на вайне!

**Марцін КОЎЗКІ**

# Доля праўды

Гаворка ў тралейбусе: «*Во грамацеі, так* вывучылі родную мову, што шпараць на ёй».

●

Аргументы і факты. Аргументы абгрунтаваныя, бясспрэчныя, важкія, выпрабаваныя, істотныя, надзейныя, неабвержныя, неаспрэчныя, пераканаўчыя. Факты абуральныя, агульнавядомыя, адмоўныя, банальныя, голыя, дробныя, кур'ёзныя, ліпавыя, неверагодныя, недарэчныя, непераканаўчыя, непрыкметныя, нехарактэрныя, няпэўныя, падтасаваныя, перакручаныя, прыкрыя, сенсацыйныя, скажоныя, сумныя, фантастычныя. Аргументы мацнейшыя за факты!

●

Складаней за ўсё імітаваць рух наперад — трэба, каб усе астатнія рухаліся назад. Тады можна і пастаяць.

●

Газетны жанр: рапартаж.

●

— Што бегаеш па клетцы? — спыталі тыгра. — Час баўлю, — адказаў тыгр.

●

Сярод паліглотаў. «Уіпіў бы гарэлкі», — сказаў зяць з англійскім акцэнтам. «Утры пысу», — амаль па-французску адказала яму цешча.



Мал. А. ГУРСКАГА.







Мал. Н. ЗАМСКАГА.


Мал. А. ПАПОВА.




з 21 па 27 лістапада

**22 лістапада, 21.50**
**«ЛІРА»**

Мастацка-публіцыстычная праграма. Абмеркаванне канфліктнай сітуацыі вакол фільмаў «Ёсць у горада душа» і «Гісторыяй пакінуўшыя векі», сустрэча з намеснікам старшыні Таварыства аховы помнікаў рэспублікі Г. Саўчанкай.

**24 лістапада, 18.55**
**«ПАЭЗІІ РАДОК ЧАРОЎНЫ...»**

Прагучыць балада Г. Гейне «Рыцар Олаф» у перакладзе В. Сёмухі.

Чытае артыст А. Падабед.

**24 лістапада, 20.05**
**«РОДНАЕ СЛОВА»**

Чарговы выпуск можна назваць «Бюракрат у мове». На працягу многіх гадоў дзеля высокіх тытулаў і кар'еры так званыя «вучоныя» разбуралі структуру нашай мовы, беспадстаўна абвяшчалі ўсё арыгінальнае, выпрацаванае стагоддзямі ў мове — састарэлым. Пра гэта і пойдзе размова ў перадачы. У рэчышчы гэтай гаворкі падрыхтаваны і фельетон «Казачка пра слова», лісты гледачоў, факты на роздум.

Да 70-годдзя вядомага мовазнаўцы Ф. Янкоўскага прымеркавана старонка «Пра чалавека, пра кнігу».

Вядучы — кандыдат філалагічных навук Я. Саламевіч.

**25 лістапада, 19.50**
**«НА ПРЫНЁМАНСКІХ ПРАСТОРАХ»**

Чарговы выпуск літаратурна-мастацкага часопіса расказвае пра трэнера па гімнастыцы, самадзейнага паэта Т. Марозаву, якая займаецца гарманічным выхаваннем дзяцей.

**26 лістапада, 13.35**
**ЛІТАРАТУРНЫ ТЭАТР**

Апавяданне У. Караткевіча «Паляшук» чытае артыст Г. Маляўскі.

**26 лістапада, 21.50**

Канцэрт з удзелам калектываў мастацкай самадзейнасці Гомельскай вобласці.

**26 лістапада, 23.45**

Музычная прагулка па Вільнюсе. Эстрадная праграма.

**27 лістапада, 11.30**
**«ПРА МУЗЫКУ АД «А» ДА «Я»**

Вас чакае сустрэча з творчасцю народных артыстаў СССР С. Данілюк, Я. Глебава, заслужаных артыстак рэспублікі М. Адамейкі і Г. Аўдзеенкі. Пра народны інструмент — дудку, якая робіцца ўсё больш папулярнай, расказвае майстар народных інструментаў У. Пузыня.

Вядучая — В. Скварцова.

**27 лістапада, 15.00**
**«ТЭАТР І ЧАС»**

«Дапамажыце Магілёўскаму тэатру лялек, які працуе ў цяжкіх умовах», — так можна вызначыць асноўную тэму перадачы.

**27 лістапада, 16.40**
**«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ»**

Пра сродкі масавай інфармацыі, дэмакратыю, галоснасць, сацыялістычны плюралізм разважаюць Я. Брыль, В. Быкаў, Р. Барадулін.

Наступны сюжэт прысвечаны выдатнаму мастаку і дзеячу беларускай культуры Я. Драздовічу.

Даведаецеся вы і аб праблемах студэнтаў філалагічнага факультэта БДУ імя Леніна.

**27 лістапада, 19.40**
**«МУЗЫКА МАЁЙ РЭСПУБЛІКІ»**

Фестываль тэлевізійных музычных праграм.

Л. Абеліёвіч. Канцэрт для фартэпіяна з аркестрам.

Выканаўцы — заслужаны артыст БССР І. Алоўнікаў і сімфанічны аркестр Беларускага тэлебачання і радыё.

Дырыжор — заслужаны артыст БССР Б. Райскі.

Вядучая — музычны каментатар Э. Язерская.

## У «КНІГАРНІ ПІСЬМЕННІКА»

М. БАРЭЙША. Крыніца, чыстая вадзіца. Апавяданні. Мн., «Мастацкая літаратура», 1988.— 55к.

БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА XIX стагоддзя. Хрэстаматыя. Мн., «Вышэйшая школа», 1988.— 1 р. 20 к.

І. ГРАМОВІЧ. Выбранае. Аповесці і апавяданні. Мн., «Мастацкая літаратура», 1988.— 2 р. 20 к.

ПЕСНІ ВОЛЖСКАГА КРАЮ. Старонкі чувашскай паэзіі. Мн., «Мастацкая літаратура», 1988.— 1 р. 10 к.

І. ШАМЯКІН. Петраград—Брэст. Гістарычны раман. На рускай мове. Мн., «Мастацкая літаратура», 1988.— 2 р.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856
АТ 01466

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела пісьмаў — 33-19-65, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела тэатра, *кіно і тэлебачання* — 33-21-53, *аддзела музыкі* — 33-21-53, аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, аддзела народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 32-24-62, карэктарскай — 32-20-64, машынапіснага бюро — 33-44-04, бухгалтэрыі — 23-73-37.